*— Каго любіш?*

*— Люблю Беларусь!*



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

4 КАСТРЫЧНІКА 1996 г. № 40 (3864) Кошт 2 500 руб.

# АДЗІНЫ... І АПОШНІ...

Цягам доўгага часу з'яўляюся чытачом і аўтарам шаноўнага і паважанага (перш за ўсё за аб'ектыўную і незалежную пазіцыю) "ЛіМа".

Праўда, апошнім часам (ці не другі ўжо год) назіраецца дзіўная і невытлумачальная карціна. У пятніцу, у дзень выхаду газеты, набыць экземпляр "ЛіМа" стала практычна немагчыма.

Вось, скажам, у верасні кожную пятніцу раніцою рабіў "круіз" з мэтаю набыць штотыднёвік па кіёсках "Белсаюздруку", што размешчаны на праспекце Францішка Скарыны ад станцый метро "Усход" да "Плошчы Незалежнасці". У выніку пасля доўгіх хаджэнняў удавалася купіць экземпляр "ЛіМа" (адзіны і апошні!) у кіёску ля кінатэатра "Кастрычнік".

Аказваецца, з 7 кіёскаў, якія я абыходзіў, тры газету апошнім часам не атрымліваюць наогул, а ў астатнія яна паступае ў колькасці 1—2 экземпляраў.

Можа, гэта толькі ў Мінску нейкі невытлумачальны збег такіх абставін? Не так даўно быў у камандзіроўцы ў Гродне. Там карціна ці не яшчэ больш сумная. У тры кіёскі, што паблізу гасцініцы, "ЛіМ" наогул не паступае.

Што ж гэта робіцца?

**Ігар КУЗНЯЦОЎ**

## Ад рэдакцыі

Гэты ліст нашага чытача — не адзіны ў рэдакцыйнай пошце апошняга часу. Яшчэ больш — тэлефонных званкоў такога ж зместу. Што здарылася? Чаму нельга набыць штотыднёвік нават у дзень ягонага выхаду, прытым у цэнтры беларускай сталіцы?

Званок у "Белсаюздрук" сёе-тое праясніў. З вуснаў старшага інструктара па розніцы Т.Якубовіч прагучала сакраментальная фраза: "Усе беларускамоўныя газеты селі ў галёшу!" Заўважце: беларускамоўныя! Вось вам і яшчэ адзін адмоўны вынік леташняга прэзідэнцкага рэферэндуму. Каму ён патрэбен, гэты Васька? Выбачайце, беларускамоўны друк? На ім, як на якой-небудзь "Сенсации" ці "Из рук в руки", не заробіш. Заробіш хутчэй гэтак, як Заблоцкі на мыле.

Але самае дзіўнае адкрылася, калі з вуснаў тае ж спадарыні Якубовіч прагучалі лічбы. Аказваецца, на 290 кіёскаў і магазінаў Мінска ў рознічны продаж паступае ажно... 300 экземпляраў "ЛіМа"! Арыфметыка — нескладаная. Скажам, калі ў палову кіёскаў трапляе па 2 экземпляры тыднёвіка, дык у другую палову — аніводнага! Вось тут і скажы, што — жыве Беларусь! Не жыццё гэта, а самае што ні ёсць скананне.

Яшчэ больш дзіўныя лічбы назвала інжынер аддзела розніцы "Белсаюздруку" С.Шахновіч. Удумайцеся толькі: у 740 кіёскаў, якія працуюць у краіне (без уліку Мінска і Мінскай вобласці), у продаж паступае 382 экземпляры "ЛіМа"! Прыкіньце, што гэта азначае? Азначае тое, што газета трапляе ў колькасці 1 экземпляра толькі ў кожны другі кіёск. І што ў выніку? А вось што, дайце веры: у жніўні ў гэтыя кіёскі паступіла 1910 экземпляраў штотыднёвіка ("ЛіМ" выходзіў у жніўні 5 разоў), з іх спісана — 1072 экземпляры — 56 з гакам працэнтаў. Што ж, мы памятаем, як па тэлебачанні гучала і больш здзеклівая лічба спісвання "ЛіМа" ў Гродне — ажно 80 працэнтаў. Гэтыя высокія працэнты лёгка ствараюцца. Можна "дамагчыся" і 100-працэнтнага спісання. Скажам, паступіць 1 экземпляр газеты, ён не будзе прададзены, вось вам і 100 працэнтаў спісання!

Толькі ўсё ж аніяк не дабраць да розуму: 60 і нават 80 працэнтаў спісання, а чытачы скардзяцца, што не могуць купіць газету нават у дзень выхаду, што вымушаны рабіць дзеля гэтага цэлыя круізы ад кіёска да кіёска? Міжволі задумаешся: а ці не знарок гэтак робіцца? Гэта значыць, завозіцца "ЛіМ" туды, дзе заведама не будзе раскуплены? Не хочацца ў гэта верыць! Хутчэй за ўсё, адбываецца гэтак па прычыне звычайнай нашай абыякавасці і бяздумнасці, з прычыны таго, што попыт не вывучаецца і аніяк не рэгулюецца. Адсюль і гэтыя мізэрныя колькасці розніцы, і гэтыя недарэчна вялікія, абразлівыя працэнты спісання.

І сітуацыя гэтая яшчэ і яшчэ раз гаворыць за тое, што сапраўдным прыхільнікам і сябрам "ЛіМа" не трэба, бадай, спадзявацца на добрую ласку "Белсаюздруку", а парупіцца дый падпісацца на штотыднёвік. Тым больш, што зрабіць гэта ніколі не позна. Скажам, тыя, што спазніліся аформіць падпіску на апошні квартал гэтага года, яшчэ могуць выпісаць "ЛіМ" на лістапад і снежань.



# БУДЗЁННЫЯ, АЛЕ НЕ ШАРАГОВЫЯ

Ёсць спадзеў, што і сёлетні, юбілейны сезон Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа... "прынясе яшчэ сюрпрызы". Такія самыя прыемныя ды заўважныя, як работы Ларысы Антосевай (вы бачыце яе ў сцэне са спектакля "Размова ў доме Штайн..." П.Хакса), актрысы, якая даўно мусіла давесці сваю сталую сцэнічную абазнанасць, далікатнасць ды вытанчанасць — як адметнасці таленту. Або ўдзел у спектаклі "Вялікая сумная рыбіна, якая чакае" Андрэя Віктарава, дэбютанта, пачаткоўца, студэнта, чые безумоўныя здольнасці не павінны застацца не заўважанымі. Або чарговая спроба ў драматургіі Валерыя Маслюка, мастацкага кіраўніка і дырэктара тэатра, а таксама рэжысёра памянёнага спектакля: натхняе ўжо самая алантанасць, з якой твор увасабляўся ды даводзіўся да гледача...

Здымкі нашага фотакарэспандэнта Аляксея Мацюша занатавалі, мовім так, будзённыя, але не шараговыя праявы тэатральнага жыцця. Уражвае ягоная няспыннасць ды эмацыйная напружанасць. Ёсць спадзеў, што сёлета, нават са здымкавых адбіткаў, нам з вамі ўражанняў не забракуе. Праз месяц — юбілейнай урачыстасцю ды фестывалем — Коласаў тэатр мае намер і гэта давесці.





# КОЛА ДЗЁН

***Пачаўся кастрычнік. Месяц, які некалі даў назву вялікаму павароту ў жыцці народаў Расійскай імперыі. Паваротным можа стаць ён і ў найноўшай гісторыі Беларусі. Усё менш і менш застаецца часу для манеўраў, для пошукаў кампрамісаў і, урэшце, да кансенсусу ў сілаў, што супрацьстаяць сёння ў нашай краіне. Цяпер ужо відавочна, што пазбягае мажлівага прымірэння найперш бок прэзідэнцкі. Пакуль "дэмакраты" ў Вярхоўным Савеце чакаюць адказу на свае прапановы, у другім лагеры ідзе перагрупоўка сілаў дзеля таго, каб нанесці апошні, рашаючы ўдар... Так, палітычныя супрацьстаянні амаль ніколі не заканчваюцца "хэпі эндам", і гэта павінен разумець кожны бок, для таго, каб менавіта для яго гэты самы "энд" стаў "хэпі".***

## ПАСЛАННЕ ТЫДНЯ

У друку, па тэлебачанні і радыё шырока каментуецца пасланне прэзідэнта Расіі Б.Ельцына прэзідэнту Беларусі А.Лукашэнку. Пры гэтым цалкам тэкст паслання ні адно выданне не надрукавала. А гэта дае падставы і "правым", і "левым" "бачыць" у пасланні тое, што ім выгадна. Прэзідэнцкая каманда, друк, ТБ і сам прэзідэнт сцвярджаюць, што Б.Ельцын выказаў у сваім пасланні пажаданні "па пытаннях, што тычацца практычнага ажыццяўлення дагавора аб утварэнні Супольніцтва Расіі і Беларусі". Апазіцыйныя палітыкі сцвярджаюць, што Б.Ельцын найперш заклапочаны тым, каб палітычнае супрацьстаянне дзвюх галінаў улады на Беларусі не перарасло ў палітычны крызіс кшталту расійскага кастрычніцкага 1993 года. Больш таго, прычыны супрацьстаяння на Беларусі Б.Ельцын бачыць у ініцыяваным прэзідэнтам нашай краіны рэферэндуме і ягоным нежаданні ісці наперад шляхам рэформ. А без гэтага — рэфармавання беларускай эканомікі — пра нейкае Супольніцтва Расіі і Беларусі і размовы быць не можа... Такім чынам, прэзідэнт Расіі як бы ўскосна падтрымаў беларускі парламент і перасцярог А.Лукашэнку ад таго, што сам ён зрабіў у кастрычніку 1993 года. Што ж, на памылках, кажуць, трэба вучыцца. І не толькі на сваіх. Аднак неабходна ўлічваць, што сітуацыя на Беларусі сёння практычна адваротная той, што была тры гады таму ў Расіі.

## ПАЛЯРЫЗАЦЫЯ ТЫДНЯ

Беларусь на мінулым тыдні стала своеасаблівым каталізатарам для высвятлення расстаноўкі сілаў на палітычным Алімпе ў Расіі. У сувязі з сур'ёзнай хваробай Б.Ельцына ў Маскве зноў распачалася барацьба за ўладу. Чаму Беларусь стала "каталізатарам"? Ды таму, што расійская палітычная эліта ўслед за беларускай раздзяляецца на два лагеры: тых, што падтрымліваюць прэзідэнта Беларусі, і тых, што падтрымліваюць парламент. А.Лукашэнку падтрымалі сакратар дзяржбяспекі А.Лебедзь і мэр Масквы Ю.Лужкоў, парламент — прэм'ер-міністр В.Чарнамырдзін і кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта А.Чубайс (а значыць і Б.Ельцын?). Праўда, калі Л. і Л. адкрыта рассыпаліся ў кампліментах А.Лукашэнку, то падтрымка парламента Ч. і Ч. вынікае якраз з таго, што яны не падтрымалі А.Лукашэнку і ягоныя ініцыятывы. Безумоўна, калі б не хвароба Б.Ельцына, то, магчыма, сённяшняя сітуацыя на Беларусі была б больш пэўнай, а будучыня — прадказальнай.

## ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ

Як паведаміла газета "Свабода" (N 74) са спасылкай на агенцтва Рэйтэр, Савет Еўропы 26 верасня прыняў заяву, у якой прапанаваў прэзідэнту Беларусі адмовіцца ад яго намераў правесці ў лістападзе рэферэндум. Інакш, калі ўлады Беларусі не будуць прытрымлівацца дзеючай Канстытуцыі і прынцыпаў дэмакратыі, нашая краіна страціць шанцы быць прынятай у Савет Еўропы. Такім чынам, пацверджана тое, у чым ніхто не сумняваўся: асноўнай перашкодай для ўступлення Беларусі ў Савет Еўропы з'яўляецца антыдэмакратычны(антынародны?) рэжым, а не надуманая праблема адмены ці захавання смяротнага пакарання ды інш.

## ПАДРЫХТОЎКА ТЫДНЯ

Мяркуючы па Беларускім тэлебачанні і радыё, праблемы рэферэндуму паступова адыходзяць на другі план, а наперад высоўваецца падрыхтоўка да Усебеларускага народнага сходу, які, у прынцыпе, можа замяніць сабою Вярхоўны Савет і аднагалосна прыняць любую Канстытуцыю (без рэферэндуму — навошта траціць народныя грошы, калі і так усё зразумела: народ "за"). Усё залежыць сёння ад таго, ці хопіць рашучасці і нахабства ў рэжысёраў сходу, каб на вачах ва ўсяго цывілізаванага свету ажыццявіць пераварот і перадаць уладу на Беларусі ў рукі аднаго чалавека.

## АДЧАЙ ТЫДНЯ

Вярхоўны Савет Беларусі на мінулым тыдні прыняў рашэнне, якое інакш як крокам адчаю не назавеш: ён пазбавіў акрэдытацыі ўсіх журналістаў Беларускага тэлебачання і радыё. Мы выдатна ведаем, што парламент зрабіў усё магчымае і немагчымае, каб дабіцца аб'ектыўнага асвятлення на БТ сваіх пасяджэнняў, каб дабіцца адкрыцця на БТ "Парламенцкага дзённіка". І тым не менш — варта было спачатку пазбавіць акрэдытацыі асобных журналістаў, але не — усяго тэлебачання... Цяжка, зразумела, гуляць па правілах з сапернікам, які ўсялякія правілы парушае без аглядкі, але тым больш нельга прымаць (пераймаць) ягоныя спосабы гульні. Нават у адчаі.

## ЦЭНЗУРА ТЫДНЯ

Як жа "гуляе" "сапернік", мы мелі магчымасць убачыць і на мінулым тыдні: па незалежнай беларускай прэсе быў нанесены магутны ўдар — забаронены выхад гарадзенскай газеты "Пагоня", а газетам "Свабода" і "Наша ніва" вынесены абсалютна неабгрунтаваныя папярэджанні. Пасля візіту ў Савет Еўропы старшыня Дзяржкамдруку У.Бельскі на прэс-канферэнцыі сказаў: "Прэса — гэта не ўсёдазволенасць, не абліванне брудам, яна заўсёды павінна абапірацца на закон". Словы правільныя. Толькі вось сёння некаторыя рускамоўныя выданні дазваляюць сабе такое "абліванне брудам" апанентаў, якое беларускамоўны друк сабе ніколі не дазваляў. Аднак Дзяржкамдрук гэта ўпарта не заўважае.

## ПРЫЗНАННЕ ТЫДНЯ

Начальнік Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта М.Падгайны на спецпрэс-канферэнцыі ў мінулую пятніцу ў Кіеве доўга абураўся тым, што ўсе расійскія тэлеканалы (ГРТ, РТР, НТБ і ТБ Санкт-Пецярбурга) тэндэнцыйна і неаб'ектыўна асвятляюць падзеі на Беларусі. І ў доказ паведамляе "Народная воля" N 86 — прывёў такі факт: штодзень праглядвае ён разам з карэспандэнтамі ГРТ адзняты матэрыял, а ўвечары выходзіць зусім іншая яго інтэрпрэтацыя... У панядзелак стала вядома, што карпункт ГРТ на Беларусі, замест Л.Вялюгі, узначаліў вядомы журналіст П.Шарамет.

## ФАКЦІК ТЫДНЯ

Сябар прэзідэнта Беларусі міністр замежных спраў Расіі Я.Прымакоў заявіў на адной з прэс-канферэнцый, што Расія нічога не мае супраць пашырэння НАТА на ўсход, і не выключае, што ў бліжэйшым часе будзе разглядацца пытанне аб уступленні ў НАТА самой Расіі... Як памятаем, прэзідэнт Беларусі вельмі хацеў параіцца з народам, падпускаць НАТА да межаў нашай краіны ці не. Думаецца, што пытанне гэтае сёння было б архіактуальным...

З нагоды

# ЯК ДЗЕКАБРЫСТЫ НА СЯНАЦКАЙ

Той, хто чытаў аповесць Міхаіла Булгакава "Сабачае сэрца" альбо глядзеў зроблены па аповесці фільм, памятае параду прафесара Праабражэнскага не чытаць перад абедам савецкіх газет. Шкадуючы свой страўнік. Калі б названы прафесар жыў у наш час, ён, безумоўна, дадаў бы да бальшавіцкіх газет і Беларускае тэлебачанне.

У панядзелак увечары я выпадкова націснуў на шкале каналаў не тую кнопку і патрапіў на "роднае" БТ. З экрана нейкі стары бальшавік заклікаў сваіх аднадумцаў, найперш ветэранаў, "сплотиться" вакол прэзідэнта Лукашэнкі, бо супраць "усенароднаабранага" ўжо аб'яднаўся "весь Запад — и Коль, и Де Голь". Гэта было б смешна, каб не было сумна і нават страшна.

Цяпер кожны вечар прыблізна ў той час, калі прыстойныя людзі па ўсёй СНД глядзяць "Санта-Барбару", беларускім тэлегледачам прапануецца мясцовага гатунку тэлесерыял пад назвай "Рэферэндум: шчырая размова". У гэтай праграме спецыяльна падабраныя "простыя людзі" агучваюць чужыя думкі, спрабуючы прадставіць дырэктыву зверху як ініцыятыву знізу.

Вось і ў мінулы панядзелак нейкі "просты чалавек" ці то з Гомеля, ці то з Віцебска з абурэннем запытаўся, калі нарэшце прэзідэнт скарыстае дадзенае яму народам не леташнім рэферэндуме права разганяць парламент? Пытанне было зададзена прысутным у мінскай студыі людзям з прэзідэнцкай каманды. Юрыст (ці палітолаг?), якому выпала адказваць, замест таго, каб супакоіць "таварыша", нагадаўшы яму, што чацвёртае пытанне рэферэндуму аб магчымасці роспуску парламента прэзідэнтам мела не абавязковы, а толькі кансультатыўны характар, пачаў разважаць аб мэтазгоднасці такой акцыі. Яно, маўляў, не выключана, што прэзідэнт так і зробіць — не, ён не разгоніць Вярхоўны Савет, ён толькі "прыпыніць" дзейнасць парламента на час рэферэндуму. Але спадар юрыст (ці палітолаг?) спадзяецца, што да гэтага не дойдзе. На ягоную думку, парламент павінен пайсці насустрач прэзідэнту. Куды ён, парламент, маўляў, дзенецца?

Вярхоўны Савет трапіў у сітуацыю сапраўды складаную. Канфлікт "прэзідэнт — парламент" разумныя людзі прагназавалі яшчэ да таго, як дэпутаты гэтага Вярхоўнага Савета першы раз сабраліся ў Авальнай зале. Ён аб'ектыўна вынікае з характару стасункаў заканадаўчай і выканаўчай уладаў на прасторы былога СССР, сюды ж дадаецца і суб'ектыўны фактар — бальшавіцкі менталітэт Аляксандра Лукашэнкі. Парламент не толькі ішоў на ўступкі прэзідэнту, але і рабіў яму падарункі, якіх той не прасіў. Так, пасля перамогі Ельцына над Зюганавым, баючыся, што Лукашэнка, "замольваючы грахі" перад прэзідэнтам Расіі, распачне кампанію супраць камуністаў у "сваім" парламенце, камуністычна-аграрная большасць адмяніла пастановы, што датычылі дзяржаўнай сімволікі — "Пагоні" і бел-чырвона-белага сцяга. Гэты падарунак быў прапановай згоды. Але спадару Лукашэнку, на жаль, пачуццё ўдзячнасці невядома. Сёння ж для парламента згадзіцца з Лукашэнкам — гэта падпісаць сабе смяротны прысуд. Але, з другога боку, парламентарыі, як тыя дзекабрысты на Сянацкай плошчы, баяцца звярнуцца за падтрымкай і да народа. Усё чакаюць, што сітуацыя сама сабою зменіцца ў лепшы бок, на карысць Вярхоўнага Савета.

Дарма чакаюць...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Імпрэзы

# БЕНЕФІС ЗІНАІДЫ БРАВАРСКАЙ



27 верасня ў тэатры імя Янкі Купалы гледачы віталі народную артыстку Беларусі Зінаіду Браварскую ў яе бенефісным спектаклі па п'есе Джона Марэла "Смех лангусты". У ім З. Браварская сыграла знакамітую Сару Бернар. Гэтым спектаклем актрыса адзначыла свой жыццёвы і творчы юбілей. Ад імя прэзідэнта Рэспублікі Беларусь павіншаваў Зінаіду Іванаўну памочнік прэзідэнта Алег Слука.

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

# СВЯТОЧНАЯ ВЕЧАРЫНА



Народнай артыстцы СССР Аляксандры Іванаўне Клімавай 1 верасня споўнілася 75 гадоў з дня нараджэння. З гэтай нагоды ў Дзяржаўным акадэмічным Рускім драматычным тэатры імя М. Горкага адбылася святочная вечарына. Павіншаваць юбілярку прыйшлі не толькі сябры і даўнія прыхільнікі яе таленту, але і прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які ўручыў актрысе медаль Францыска Скарыны. Нямала цёплых слоў сказаў, віншуючы Аляксандру Клімаву, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка.

*Фота Аркадзя МІКАЛАЕВА, БЕЛТА*

# СВАЯК "СЛАВЯНСКОГО БАЗАРА"?

Відавочна, у знакамітага віцебскага песеннага шоу з'явіўся малодшы родзіч-канкурэнт. Ягонае імя — "Золотой шлягер". Гэта міжнародны фестываль, які ўжо ў другі раз пройдзе ў Магілёве і мерапрыемствы якога, запланаваныя на 1—6 лістапада, адбудуцца не толькі ў самім абласным цэнтры, а і ў раёнах Магілёўшчыны, і Мінску. Заснавальнікі — Міністэрства культуры РБ, магілёўскія аблвыканкам і гарвыканкам — вызначаюць яго мэты і задачы як "захаванне і праця лепшых традыцый айчыннай музычнай культуры ў песенным жанры, аб'яднанне культурнай прасторы краін СНД, практычная рэалізацыя ідэі пераемнасці пакаленняў дзеячаў культуры і мастацтва".

Будуць удзельнічаць у фестывалі папулярныя выканаўцы мінулых гадоў з Беларусі, краін СНД і далёкага замежжа, якіх маладзейшае пакаленне слухачоў амаль не ведае. Адбудзецца конкурс маладых спевакоў на лепшае выкананне песень мінулых гадоў. З удзелам Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга і вядучага ГРТ Валдзіса Пельша адбудзецца гульня "Адгадай мелодыю". У складзе журы і сярод удзельнікаў фестывальных праграм — пераважна папулярныя калісьці артысты савецкай эстрады Леў Барашкаў, Юрый Багацікаў, Уладзімір Трошын, Эдуард Хіль, Марыя Пахоменка, Тамара Міянсарава... Беларусь прадстаўлена імёнамі Ігара Лучанка, Нэлі Багуслаўскай ды Віктара Вуячыча. Журы ўзначальвае Муслім Магамаеў. Сярод гасцей замоўлены і Шарль Азнавур.

У адрозненне ад свайго віцебскага "старэйшага брата", магілёўскі "Золотой шлягер" — гэта фестываль-настальгія, які можна было б смела назваць Усесаюзным святам адраджэння савецкай песні. Бо "лепшыя традыцыі айчыннай музычнай культуры ў песенным жанры", як вядома, фарміраваліся і распаўсюджваліся праз Цэнтральнае тэлебачанне, дзе на парадзе песень маскоўскіх, радзей — ленінградскіх аўтараў трапляліся і цудоўныя песні кампазітараў Грузіі, Латвіі, Украіны, Малдовы, Эстоніі, Беларусі...

"Золотой шлягер", статус якога сціпла пазначаны на дзвюх мовах — рускай ("Международный музыкальный фестиваль") і адпаведна — англійскай, хаця арганізатары — нашы, тутэйшыя, будзе сапраўды даступным, дэмакратычным масавым святам для людзей, якія сумуюць па незабытых яшчэ, старых добрых і розных савецкіх песнях. І гэта надзёна, і гэта сімвалічна.

Надзённае

Ніл ГІЛЕВІЧ

## ДЗЕ ВЫ?

— Дзе вы? Што робіце вы, Беларусі сыны?
— П'ём, залажыўшы сумленне ў ламбард Сатаны.

— А ці яшчэ вы не ўсё, што ільга, прапілі?
— Не! Дапіваем яшчэ. Вось — ізноў налілі.

— Дзіўна! Па-мойму, вы ўсё прасцулячылі ўжо!
— Не! У запасе — барыш ад прадажы крыжоў.

— Тых, што на храмах? Што нам сцерагуць небасхіл?
— Тыя пасля. Напачатку — з дзядоўскіх магіл.

## "МЫ НЕ ХОЧАМ, КАБ МОВА ЗНІКЛА..."

Супрацоўнік Міністэрства нацыянальнай адукацыі Французскай Рэспублікі, кандыдат Сарбонскага універсітэта Жан-П'ер Жанто вывучае моўную сітуацыю ў сістэме адукацыі нашай краіны. Гэтым летам ён чарговы раз наведаў Беларусь і сярод іншага адказаў на пытанні Сяргея ЗАПРУДСКАГА.

**— Яшчэ ў часы Вялікай Французскай рэвалюцыі на вашай радзіме ўпершыню ў Еўропе была грунтоўна распрацавана моўная палітыка. Традыцыя моўнага рэгулявання ў Францыі працягваецца і сёння?**

— Я не думаю, што сёння ў нас праводзіцца тая ж моўная палітыка, што была раней. Людзі, якія рабілі рэвалюцыю, меркавалі, што ў краіне існуе толькі адна магчымасць — афіцыйнае ўжыванне французскай мовы. І яны нічога не запісалі на гэты конт у Канстытуцыю. Яны хацелі правесці уніфікацыю ва ўсёй краіне — адміністратыўную, вайсковую. У такім разе патрэбна была і моўная уніфікацыя, неабходна было, каб паўсюль у Францыі вывучалася толькі французская мова.

Сёння ў нас у моўнай сферы працякаюць новыя, нязнаныя раней працэсы. У 1992 годзе ў Канстытуцыю быў уключаны запіс, што французская мова з'яўляецца афіцыйнай мовай Французскай Рэспублікі. Гэта зроблена, бо нашы дзяржаўныя мужы ўбачылі, што цяпер у нас існуюць пэўныя праблемы з французскай мовай. Цяпер іншая сітуацыя ў параўнанні, напрыклад, з 1896 годам, калі само сабой разумелася, што французская мова — гэта мова Францыі. Ініцыятары ўключэння такога пункта ў Канстытуцыю, відаць, вырашылі, што ў нас пэўныя складанасці можа ствараць англійская мова. Яна выкарыстоўваецца на тэрыторыі Францыі, і мы павінны браць пад увагу такую акалічнасць. Гэтая мова ў нашых школах з'яўляецца першай замежнай, якую вывучаюць амаль 90 працэнтаў дзяцей; пераважная большасць бацькоў хоча, каб дзеці вывучалі менавіта англійскую мову. У нас ёсць невялікая колькасць франка-англійскіх школ, і яны карыстаюцца папулярнасцю ў бацькоў.

У сферы прамысловай вытворчасці ў нас існуюць асобныя прадпрыемствы, дзе на рабоце французы гавораць паміж сабой па-англійску. Многія тэхналогіі прыходзяць у Францыю з Амерыкі, англійская тэрміналогія добра распрацаваная, і часам нашы грамадзяне лічаць, што на пэўныя тэмы лепш размаўляць па-англійску. Маўляў, у такіх сітуацыях размаўляць па-французску было б цяжка ці наогул немагчыма. Праўда, мова, на якой яны гавораць, не зусім англійская, гэта змешаная англійска-французская мова. Але такі яе стан будзе захоўвацца толькі спачатку, пазней яна ператворыцца ў англійскую мову.

Вядома, англійская мова папулярная ва ўсім свеце, яна выступае ў якасці мовы-пасрэдніка. Яна стала мовай, якой карыстаюцца многія людзі, — дзеля прафесійнага росту, у міжнародных кантактах. Паколькі ўсе ведаюць англійскую мову, значыць для французскай трэба рабіць спецыяльны закон, бо мы не хочам, каб яна знікла.

**— Якія вынікі магло б даць у Францыі ўвядзенне безумоўнага права выбару бацькамі мовы навучання для сваіх дзяцей?**

— Мы не спрабавалі гэта рабіць. Калі б такі выбар існаваў, то, мяркую, знайшліся б бацькі, якія захацелі б, калі іхнія дзеці вучыліся па-англійску. Магчыма, спачатку іх было б толькі дзесяць працэнтаў ці яшчэ менш, але гэтая лічба штогод павялічвалася б.

## МЭР ГОРАДА НАДЗЕІ



Па выпадковым ці ўсё ж заканамерным супадзенні дзень 28 верасня для прападобнага Пола Мора стаў сімвалічным днём. Пол лічыць гэта гасподняю празарлівасцю. І не толькі таму, што сам з'яўляецца святаром. Справа ў тым, што ў суботу 28 верасня, калі чарговы гуманітарны авіярэйс прызямліўся ў "Мінску-2", споўнілася роўна 6 гадоў, як упершыню на беларускую зямлю прыбыў невядомы яшчэ Пол Мор. Тады ён прыбыў з падлеткам-сынам і было ў іх на плячах толькі па салдацкім рукзаку з медыкаментамі. З таго дня і пачалася вялікая місія амерыканскага святара на абпаленай Чарнобылем зямлі. Ён стварыў спецыяльны каардынацыйны камітэт і назваў яго горадам Надзеі. Дарэчы, за шэсць гадоў гэта ўжо 57-мы прылёт спадара Мора з-за акіяна. Сотнямі мільёнаў долараў вылічваюцца дастаўленыя для беларускіх бальніц і клінік медыкаменты праз "City Hope International" за час існавання. Гэтым разам грузавым самалётам ІЛ-76 прыбыла партыя каштоўных антыбіётыкаў для рэанімацыі.

Прападобны Мор прыляцеў з дырэктарам праграм гуманітарнай дапамогі арганізацыі "Project Hope" са штата Вірджынія Скотам Крофардам. Спадар Крофард жадае ўбачыць не толькі механізмы дастаўкі, захаванне і размеркаванне гуманітарных грузаў у Беларусі (гэта ўжо, дарэчы, 4-ты авіярэйс ад "Project Hope"), але і вывучыць сітуацыю жаночай анкалогіі. Яго арганізацыя плануе адкрыць Цэнтр па дыягностыцы жаночых ракавых хвароб. Такі Цэнтр у сваю чаргу дасць магчымасць амерыканцам збіраць вялікія сродкі на патрэбныя медыкаменты для Беларусі.

**Анатоль КЛЯШЧУК**

*На здымках: уверсе — Пол МОР; унізе — Скот КРОФАРД*

*Фота аўтара*




Варункі

## ВІЗІЦЁРЫ

**Памятаю далекаватыя ўжо брэжнеўскія часы. Леанід Ільіч прыязджаў у Мінск. З тых тэлерэпартажаў запомнілася мне непадробнае захапленне, з якім тутэйшыя князькі сустракалі свайго цэзара, а таксама пацалункі ўзасос.**

**Вось ужо пяць гадоў, як мы боўтаемся ў сваёй такой дзіўнай незалежнасці, а нашыя сувязі з Масквою, не ў прыклад розным там "лабусам" і "хахлам", не слабеюць. Для расійскіх палітыкаў Беларусь засталася ці не адзіным любімым замежжам. Можна ехаць і не баяцца, што цябе там падстрэляць ці падарвуць. Такая сёння рэакцыя ў бліжэйшых суседзяў з былых "брацкіх рэспублік" на расійскіх палітыкаў.**

**У апошні год сваімі непадрыхтаванымі ваяжамі вызначыўся і беларускі прэзідэнт. Аляксандр Рыгоравіч, як баявы сакратар райкама, прыязджае ў вобласць выбіваць запчасткі для камбайнаў. Сакратара ў вобласці не любяць, моршчаць нос, але трываюць, бо надта спрытны.**

**Такім чынам расійцы — нашыя самыя блізкія сябры. Аж занадта. Бастуе Яраслаўскі маторны завод — стаіць наш МАЗ. Я часам думаю, а што калі гэты вялізны расійскі зношаны кацёл не вытрымае і калі-небудзь узарвецца? Вунь і прэзідэнт у іх хварэе, і бясконцыя войны з "инородцами", і зарплату з пенсіяй не плацяць, мала ці яшчэ што там можа адбыцца. З якім тады грукатам лясне беларуская эканоміка! Ну, не грузінская ж, да слова, дзе Расія па аб'ёме тавараабароту стаіць на шостым месцы. А тут — толькі высахне труба, па якой з усходу ідзе да нас "сібірскі кактэйль" — і ўсё, прыехалі. Арабская ж нафта для прававерных славян-беларусаў занадта смярдзючая.**

**З хваробаю Барыса Мікалаевіча ўзрасла вага Аляксандра Рыгоравіча, які быў так аканфузіўся падчас прэзідэнцкіх выбараў у Расіі — не на таго паставіў. А зараз зноў, калі расійскія ваўкі грызуцца, адчуваючы верагодны перадзел улады, гэты канфуз можа аказацца выйгрышам. Можа, таму і зачасцілі сюды з таямнічымі візітамі Затуліны і Лебедзі, пасля якіх раптам аказваецца, што беларуская супрацьпаветраная абарона — гэта ўжо не нашая абарона, а сумесная, як у калгасе. Ідзе нейкі буйны махлярскі гандаль.**

**Складанай была дыпламатычная місія Зюганава — і сяброў па партыі не пакрыўдзіць, і з Лукашэнкам захаваць добрыя стасункі. І, здаецца, яна ўдалася. Сябры па партыі пацішэлі і антыпрэзідэнцкія артыкулы пісаць кінулі.**

**І калі выказванні буйных візіцёраў наконт палітычнага крызісу на Беларусі былі няпэўнымі і абцякальнымі, дык вось мэр Масквы Лужкоў пасля падоранага яму тралейбуса быў шчырым да непрыстойнасці. Я дык адразу згадаў агульнавядомы дакумент вертыкалі аб лабіраванні прэзідэнцкага рэферэндуму за межамі Беларусі і пра тыя мільёны даляраў, выдзеленыя на гэта. Колькі ж каштавала для Беларусі "шчырасць" Лужкова?**

**Ездзіць у Маскву не толькі сп. Лукашэнка. Паехала туды і антыпрэзідэнцкая апазіцыя розных акрасаў. І гэта б усё — нічога. Хай ездзяць, шукаюць падтрымкі, можа, смялейшымі будуць. Галоўнае, каб не забываліся — нашыя справы прыйдзецца вырашаць ўсё роўна нам самім і ніякія візіцёры тут не дапамогуць.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## ПРАПАНОВУ НЕ ПАДТРЫМАЛІ

### З ПАСЯДЖЭННЯ ПРЭЗІДЫУМА РАДЫ СБП

24 верасня адбылося пасяджэнне прэзідыума рады Саюза беларускіх пісьменнікаў. На ім была абмеркавана прапанова Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку адносна стварэння аб'яднанага выдання на базе газеты "Літаратура і мастацтва" (з далучэннем газет "Культура" і "Наша слова").

З паведамленнямі выступілі старшыня СПБ Васіль Зуёнак і першы намеснік старшыні Дзяржкамдруку Зіновій Прыгодзіч. У абмеркаванні прапановы прынялі ўдзел Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Генрых Далідовіч, Іван Шамякін, Віктар Супрунчук, Вячаслаў Адамчык, Алесь Жук, Алесь Масарэнка, Уладзімір Някляеў, Алег Камінскі, Барыс Пятровіч, Мікола Гіль і іншыя.

Было адзначана:

Ужо некалькі месяцаў ходзяць чуткі пра неабходнасць аб'яднання некалькіх беларускамоўных выданняў у адно. Прычым чуткі самыя супярэчлівыя: то называецца "шэсць" выданняў, якія мяркуецца "з'яднаць", то "чатыры", а то і проста "некалькі". Але нязменна ў лік "аб'яднантаў" трапляе штотыднёвік "Літаратура і мастацтва", прытым якраз у якасці "базы", на аснове якой гэтае аб'яднанне мусіць быць. Прычына, дзеля якой задумана аб'яднанне, называецца адна — эканамічная. Маўляў, у дзяржавы няма грошай, каб утрымліваць некалькі малатыражных беларускамоўных выданняў і трэба іх зліць у адно, каб сэканоміць сродкі з дзяржбюджэту. Але размова ідзе пра настолькі мізэрныя для дзяржавы сумы, што міжволі ўзнікаюць думкі пра іншыя прычыны. Больш таго, элементарны падлік паказвае, што сёння на выданне трох газет — "Культуры", "Нашага слова" і "ЛіМа" — дзяржава затрачвае прыблізна 3 мільярды рублёў у год, а на новае выданне, так званы абноўлены "ЛіМ" з павялічаным аб'ёмам і штатам, давядзецца патраціць ці не больш. Значыць, прычыны размоў пра аб'яднанне — зусім іншыя. (Размоў, бо афіцыйнага паведамлення, альбо распараджэння, указа, пастановы не было. Былі толькі публікацыі ў друку, былі інтэрв'ю старшыні Дзяржкамдруку У. Бельскага, але пасля іх сітуацыя з плануемым аб'яднаннем не толькі не праяснялася, а яшчэ больш заблыталася).

Паколькі пытанне аб эканамічнай мэтазгоднасці аб'яднання шасці (чатырох, некалькіх) беларускамоўных выданняў у адно адпадае (чаму б тады ў мэтах эканоміі дзяржаўных сродкаў не аб'яднаць некалькі прэзідэнцкіх ці саўмінаўскіх рускамоўных газет у адну — вось дзе была б сапраўды эканомія!), то сама сабой напрошваецца іншая выснова: у дзяржаве Беларусь ідзе планамерная барацьба з беларускім словам, з беларускамоўным друкам і ўвогуле са свабодай слова, гарантаванай Канстытуцыяй. Здарылася так, што сама беларуская мова стала ў нашай дзяржаве, як ні дзіўна гэта гучыць, "апазіцыйнай", а ўжо выданні, якія выходзяць на ёй — тым больш. Абразіць, абліць брудам беларускую мову, назваць яе неразвітай, недасканалай і г.д. сёння можа любы, а нават нязначнае выступленне ў абарону роднай мовы ўспрымаецца ў штыкі, як ледзь не антыдзяржаўная, антыпрэзідэнцкая акцыя.

Выданні, якія плануецца аб'яднаць, на сёння з'яўляюцца аднымі з апошніх, што выходзяць выключна на беларускай мове (яшчэ, можа, "Звязда" ды "Чырвоная змена") і якія дазваляюць сабе часам не пагаджацца з той палітыкай, якую праводзіць сёння кіраўніцтва Беларусі ў сферах культуры, навукі, гісторыі і інш. І таму задуманае аб'яднанне ўспрымаецца беларускай інтэлігенцыяй адназначна як спроба задушыць, зачыніць, знішчыць некалькі патэнцыяльна апазіцыйных выданняў і стварыць на іх "базе" адно паслухмянае, "прэзідэнцкае". Іншых "прычын" для аб'яднання не відаць. Бо дзяржаве Беларусь сёння трэба і "Культура", і "Наша слова", і "ЛіМ", якія маюць свае адметнасці, сваіх чытачоў і займаюць сваю пэўную нішу ў беларускім друку, якая пасля іх знішчэння будзе пустой.

Акрамя таго, прапанова Дзяржкамдруку пра аб'яднанне супярэчыць існуючаму заканадаўству Рэспублікі Беларусь. Яна, па-першае, з'яўляецца яўнай праявай тэндэнцыі да манапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі, у той час як артыкул 33 Канстытуцыі РБ гаворыць: "Манапалізацыя сродкаў масавай інфармацыі не дапускаецца". Па-другое, законы Рэспублікі Беларусь "Аб культуры", "Аб грамадскіх аб'яднаннях" і "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" абавязваюць дзяржаву, органы дзяржаўнай улады, у дадзеным выпадку Камітэт па друку "вызначаць меры, накіраваныя на забеспячэнне эканамічнай падтрымкі сродкаў масавай інфармацыі" (артыкул 3 Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі"), што зусім не азначае адміністрацыйнае ўмяшанне ў дзейнасць апошніх. Па-трэцяе, згодна з "Законам аб друку" пытанні змянення статуса выдання (рэарганізацыі, пераўтварэння і г.д.) могуць разглядацца толькі суб'ектамі СМІ, г.зн. заснавальнікам, рэдакцыяй, рэдакцыйным калектывам (журналістамі), выдаўцом. Іх узаемадачыненні падрабязна вызначаюцца артыкуламі 18—23 закона. Ініцыятыва Камітэта па друку, такім чынам, з'яўляецца незаконным умяшаннем у дзейнасць газет "Літаратура і мастацтва", "Культура" і "Наша слова", не мае пад сабой прававой падставы.

Зыходзячы з гэтага, прэзідыум рады Саюза беларускіх пісьменнікаў не падтрымаў прапановы Дзяржаўнага камітэта РБ па друку пра стварэнне на базе "ЛіМа" нейкага новага аб'яднанага выдання.

## ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА Ў ПОЛЬШЧЫ



**Чалавек можа ўсё, нават, здавалася б, немагчымае, калі ім рухае Вера. Вера ва ўласныя сілы, у праведнасць задуманага, вера ў Бога.**

**І я паехаў на сустрэчу з людзьмі, чыя вера і ўзвышанасць духу сталі амаль легендай у Польшчы. Дарога нямблізкая — больш за пяцьсот кіламетраў ад Беластока на поўдзень Польшчы. Тут, непадалёк ад горада Пшэмысля, на схілах Карпат, якія называюцца тут Бешчадамі, чатыры (!) праваслаўныя манахі будуюць манастыр Святых братоў Кірыла і Мяфодзія. Будуюць ужо дзесяць гадоў.**

**Калі айцец Нікадзім і айцец Анатазі пачалі гэту, здавалася б, непасільную працу, то напісалі невялікую ікону з абліччамі сваіх заступнікаў Кірыла і Мяфодзія. А на скрутку ў руках св. Кірыла напісалі: "Браты былі парай валоў ва ўпражцы Хрыста — адну баразну араць". І вось ужо дзесяць гадоў айцец Нікадзім (ігумен манастыра) і яго паплечнікі айцы Мікалай, Анатазі і Сергіюш шчыруюць у імя Хрыста ў адной "упражцы".**

**А іх праца сапраўды тытанічная. Не буду падрабязна спыняцца на тых цяжкасцях, з якімі яны сутыкнуліся — наймоцнага процідзеяння каталіцкага касцёла, які не жадае мець у гэтым краі амаль пагалоўнага каталіцызму праваслаўнага храма; байкоту на пастаўку будаўнічых матэрыялаў; маральнага ды і фізічнага ціску з боку мясцовых жыхароў. Усё пераадолелі, набылі аднадумцаў, сяброў. І ўзнялася на жывапіснай гары каля вёсачкі Уйкавіцэ невялікая царква, а каля яе — жылы дом і гаспадарчыя пабудовы. Высокая сцяна адгарадзіла манастыр ад нядобразычліўцаў, пакінуўшы шырока расчыненымі вароты для сяброў. А іх у дзень асвяшчэння манастырскіх званоў з'ехалася шмат. Галоўны звон манастыра адліты на ахвяраванні чытачоў часопіса "Праваслаўны агляд".**



**Два дні ў манастырскай царкве і каля яе сцен ішлі малебны, чыталіся пропаведзі. Са словамі пажаданняў паломнікам, якія прыехалі на свята, звярнуліся свяшчэннаслужыцелі на чале з Мітрапалітам Варшаўскім і Усяе Польшчы Васіліем.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛТА**

*На здымках: у час свята ў манастыры; хрэсны ход.*

## ДА 90-ГОДДЗЯ "НАШАЙ НІВЫ"

**7—8 кастрычніка ў памяшканні Літаратурнага музея Янкі Купалы адбудуцца Міжнародныя Купалаўскія чытанні "Янка Купала" і "Наша Ніва". Па пытаннях рэгістрацыі і пасялення ў гасцініцу можна звяртацца ў Літаратурны музей Янкі Купалы:**
*Мінск, вул. Янкі Купалы, 4. Тэл. 227-73-54.*

# КУРС — НА ДОБРЫЯ ЎЗАЕМААДНОСІНЫ

***У год 55-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў грамадстве праяўляецца павышаная цікавасць да палітычнай сітуацыі ў перадваенныя гады. Прычын тут некалькі. Галоўная з іх — зразумелае жаданне спасцігнуць сутнасць драматычных падзей, якія прывялі да вайны, і зрабіць неабходныя для сённяшняга дня высновы. Але ёсць і іншыя прычыны. Справа ў тым, што доўгі час айчынныя гісторыкі і публіцысты абыходзілі праблемы, звязаныя з перадваеннай палітыкай савецкага кіраўніцтва, якая наблізіла трагічны дзень пачатку Другой сусветнай вайны.***

***У сусветнай гісторыі — няшмат старонак, якія можна параўнаць па сораму, ганьбе з тым, што адбылося на працягу двух апошніх дзён верасня 1938 года ў Мюнхене, калі прэм'еры Вялікабрытаніі і Францыі Чэмберлен і Даладзье сустрэліся з Гітлерам і Мусаліні і паставілі свае подпісы пад дакументам, які клаў канец існаванню Чэхаславакіі як незалежнай дзяржавы.***

***Праз паўгода вермахт акупаваў тэрыторыю Чэхаславакіі, захапіў ключавыя пазіцыі ў цэнтры кантынента для нападу на Польшчу, для "бліцкрыга" на Захад вясной 1940 года, для рэалізацыі плана "Барбароса", у выніку якога панесла невымерныя чалавечыя і матэрыяльныя страты і Беларусь.***

***З часовым Паверанім у справах Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь спадаром Душанам ДОСКАЧЫЛАМ гутарыць наш карэспандэнт Ігар КУЗНЯЦОЎ.***

**— Спадар Доскачыл, дагэтуль працягваецца пошук адказу на пытанне: ці магчыма было пазбегнуць Другой сусветнай вайны? Адна з падзей гэтага трагічнага ланцужка — Мюнхенскае пагадненне 1938 года. Як вы лічыце, ці магчыма было ў 38-м прадухіліць вайну?**

— Народы Еўропы і ўрады еўрапейскіх дзяржаў рабілі шмат для прадухілення Другой сусветнай вайны. Неабходна ўспомніць пра масавыя дэманстрацыі грамадскасці, падтрымку Іспаніі, якая змагалася з фашызмам і іншыя падзеі. Адбывалася і перагрупоўка сіл на міжнароднай арэне. Але ў сілу існаваўшых тады супярэчнасцей наўрад ці было магчымым поўнае прадухіленне вайны. Сапраўдную глыбіню небяспекі фашысцкага рэжыму ў Германіі і неабходнасць сумесных дзеянняў супраць яго ўся Еўропа зразумела са спазненнем. Дзеянні пэўных сіл на Захадзе і на Усходзе Еўропы аб'ектыўна не садзейнічалі абмежаванню "апетытаў" нацыстаў у Германіі.

Можна, вядома, весці акадэмічныя гутаркі пра тое, што калі б той зрабіў так, а другі не зрабіў таго, то можна было б прадухіліць нейкую падзею. Але гісторыя, як вядома, не церпіць умоўнага ладу. Ды, з другога боку, гэты акадэмічны падыход крайне неабходны, каб атрымаць урок з мінулага і папярэдзіць узнікаючыя канфлікты.

**— 29 верасня 1938 года ў Мюнхене было падпісана пагадненне аб падзеле Чэхаславакіі. Існуюць розныя версіі таго, чаму гэта адбылося. Як сёння ў Чэхіі ацэньваецца гэта падзея?**

— Прынцыповая ацэнка гэтай падзеі застаецца нязменнай. Мюнхенскае пагадненне аб падзеле Чэхаславакіі лічылася і лічыцца адной з самых вялікіх трагедый у гісторыі чэшскага народа і Чэхаславакіі, тады яшчэ маладой краіны, якая існавала ўсяго 20 гадоў. Для нашых народаў гэта пагадненне азначала спыненне існавання адзінай суверэннай дзяржавы. Для навакольнага ж свету Мюнхен стаў важным пераломным момантам у еўрапейскай і сусветнай гісторыі, адной з асноўных вехаў на шляху да развязвання новай сусветнай вайны.

На вялікі жаль, з прычыны свайго геапалітычнага становішча даваенная Чэхаславакія апынулася на скрыжаванні супярэчлівых знешніх інтарэсаў, і гэта адмоўна адбілася на далейшым яе гістарычным лёсе і лёсе яе народаў. Толькі што народжаная пратасістэма калектыўнай бяспекі няздольна была гарантаваць суверэнітэт і дзяржаўную цэласнасць краіны. Лінія на ўступкі фашысцкай Германіі аказалася мацнейшай, чым магчымы актыўны адпор.

Другім момантам, які прывёў у выніку да мюнхенскай змовы, была дэстабілізацыя ўнутрыпалітычнай абстаноўкі ў выніку шавіністычных і антыдзяржаўных дзеянняў моцнай нямецкай меншасці нашай краіны, якую падбухторвала фашысцкая Германія. Гэта, у сваю чаргу, нарадзіла націск з боку краін Заходняй Еўропы, не гатовых сур'ёзным чынам даць адпор Гітлеру.

**— У 1935 годзе паміж СССР, Францыяй і Чэхаславакіяй быў заключаны Дагавор аб узаемадапамозе. Чым можна растлумачыць, што ў 1938 годзе ён не быў рэалізаваны?**

— Пагадненне аб узаемнай дапамозе паміж Чэхаславакіяй і СССР было падпісана 16 мая 1935 года тагачасным міністрам замежных спраў Бенешам і паслом СССР Александроўскім, і з савецка-французскім пагадненнем яго звязвала дапаўненне, што абавязацельствы сапраўдныя ў тым выпадку, калі ахвяры нападу акажа дапамогу і Францыя.

Пагадненні такога роду могуць быць надзейнымі толькі ва ўмовах поўнага адзінства падыходаў усіх краін і адзінства падыходаў палітычных сіл унутры краін, якія падпісалі такі дакумент. Як вядома, у Заходняй Еўропе тады не было адзінага падыходу да ацэнкі ўзмоцненай небяспекі фашызму ў Германіі.

У выніку рознасці падыходаў стаў магчымым і націск на Чэхаславакію ў пытанні нямецкай меншасці, якая жыла ў Судэтах і іншых рэгіёнах краіны. Усё гэта адбывалася, нягледзячы на значныя намаганні ўрада Чэхаславакіі дэмакратычна вырашыць праблему грамадзян нямецкай нацыянальнасці.

**— Паўтор "Мюнхена" ў Еўропе, напэўна, ужо малаверагодны. Зыходзячы з гістарычнага вопыту, у чым сёння Чэшская Рэспубліка бачыць гарантыі сваёй бяспекі?**

— Пасля 1989 года ў сваёй знешнепалітычнай арыентацыі Чэшская Рэспубліка ідзе па шляху цеснай інтэграцыі ў еўрапейскія структуры. Такое рашэнне для Чэхіі з'яўляецца не столькі выказваннем жадання забяспечыць сваю бяспеку, колькі выяўленнем гістарычнай накіраванасці нашага развіцця. Кожная дзяржава павінна перш за ўсё сама браць на сябе адказнасць за сваю бяспеку.

Адначасова Чэшская Рэспубліка менавіта на ўроках сваёй гісторыі падтрымлівае шматбаковыя намаганні, накіраваныя на стварэнне еўрапейскай сістэмы калектыўнай бяспекі, сістэмы, пабудаванай не на негатывісцкім падыходзе да планаў і намераў асобных яе членаў і элементаў, а на высокай ступені ўзаемнага даверу.

**— Сп. Доскачыл, як вы ацэньваеце развіццё палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў Чэшскай Рэспубліцы?**

— Адной з характэрных рысаў унутрыпалітычнага развіцця ў Чэхіі за некалькі апошніх гадоў можна лічыць высокі ўзровень сацыяльнага міру. Працэсы эканамічнай трансфармацыі праходзілі і дагэтуль праходзяць без крызісных ці ярка выяўленых праяў сацыяльнага незадавальнення насельніцтва. Базай для гэтага служыў узважаны падыход урада да вырашэння праблем, якія ўплываюць на сацыяльнае становішча грамадзян.

Перш за ўсё дзяржава надавала вялікую ўвагу праблемам цэнаўтварэння ў сферы камунальных паслуг і на транспарце з улікам становішча груп насельніцтва з нізкімі даходамі, займалася ўдасканаленнем сістэмы забяспячэння і перападрыхтоўкі беспрацоўных. На жаль, мінулы ўрад не змог вырашыць вельмі важную праблему — рэфармаванне сістэмы аховы здароўя.

Перад новым урадам, на чале якога быў зноў пастаўлены Вацлаў Клаус, створаным на шматпартыйнай аснове па выніках парламенцкіх выбараў, якія праходзілі гэтым летам, стаіць рашэнне важных цэнавых праблем — кватрплата, цэны камунальных бытавых паслуг, але ён неадкладна павінен заняцца з рэфармаваннем сістэмы аховы здароўя, і пераглядам пенсійнага забеспячэння.

На плечы новага ўрада кладзецца, як і ў Беларусі, вядомая праблема даходаў дзяржаўнага бюджэту, перш за ўсё павышэння дысцыпліны ў аплаце падаткаў, і рашэнне праблемы высокага адмоўнага сальда знешняга гандлю, выкліканага непамернымі патрабаваннямі на імпарт тэхнічнага абсталявання.

Новаму ўраду таксама давядзецца займацца праблемамі ўнутраных закупачных цэн на сельгаспрадукты і стымулявання айчынных сельгасвытворцаў.

У знешняй палітыцы Чэхія захоўвае ранейшую лінію шматвектарнай арыентацыі, накіраванай на стварэнне спрыяльных эканамічных і палітычных умоў для развіцця рэспублікі. Заканамернымі тут з'яўляюцца добрыя ўзаемаадносіны з усімі дзяржавамі і краінамі Еўропы.

# НЕ ДАЙЦЕ АШУКАЦЬ СЯБЕ!

## ЗВАРОТ ДА НАРОДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Людзі добрыя, паслухайце нас ды падумайце крыху ў вольную хвіліну. Вас ашукалі. Трэці год ужо кіруе Беларуссю прэзідэнт Лукашэнка, і за гэты час ён не выканаў аніводнага свайго абяцання. Жыццё вашае з кожным днём горшае ды горшае, многія, асабліва людзі старэйшага ўзросту, становяцца жабракамі. Мізарнее ўсё, што выпрабляецца ў прамысловасці, мізарнее і прадукцыя сельскай гаспадаркі. Даражэйшымі становяцца жытло, камунальна-побытавыя паслугі. Па некалькі месяцаў многім не плацяць заработнай платы. Няма аніякага абяцанага змагання з карупцыяй і злачыннасцю. Эканамічныя рэформы зусім не праводзяцца, ідзе гвалтоўнае скарачэнне банкаў ды ўсяго прыватнага. Да ўлады і ў Мінску і на месцах прыйшло многа малаадукаваных, непрафесійных людзей, якія думаюць толькі аб сабе і нічога не хочуць рабіць для людзей.

Беспадстаўна і нахабна адменена гістарычная нацыянальная беларуская сімволіка. Штодзень сціскаецца кола ўжывання беларускай мовы — адной з найпрыгажэйшых у свеце. Знішчаюцца буквары і падручнікі беларускай мовы. Лукашэнкаўская каманда не церпіць аніякай, нават канструктыўнай крытыкі. Забаронены свабодныя прафсаюзы, забараняюцца газеты, тэле- ды радыёперадачы, здымаюцца з працы непаслухмяныя людзі, учыняюцца паліцэйскія расправы з простымі людзьмі падчас натуральных у кожнай свабоднай краіне, акрамя Беларусі, палітычных дэманстрацый і шэсцяў. Б'юць сумленных людзей, нават пасля літаратурных чытанняў, як нядаўна каля помніка Максіму Багдановічу. Па многіх артыкулах і пунктах прэзідэнтам Лукашэнкам груба парушаецца Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. З прычыны ўсяго гэтага знікае павага да нашай Бацькаўшчыны ва ўсім свеце.

Лукашэнка не паважае абраны вамі ж нядаўна парламент, не хоча дазволіць яго давыбары, пагражае распусціць яго ды прадоўжыць на неапраўдана большы тэрмін сваё адзінаўладнае праўленне. Грубыя парушэнні на Беларусі элементарных, прызнаных усім светам правоў чалавека вяртаюць вас да новага таталітарнага рэжыму, які можа быць яшчэ горшы за камуністычны. А што гэта такое — людзі старэйшага ды сярэдняга пакаленняў ведаюць вельмі добра.

Для нас, беларусаў, якія ў розныя гады змушаны былі пакінуць Бацькаўшчыну, зусім неабыякавы ваш, дарагія суродзічы, будучы лёс, лёс нашай роднай шматпакутнай Беларусі. Мы заклікаем вас падумаць і паставіцца апазіцыйна да антынародных захадаў прэзідэнта Лукашэнкі і ягонай каманды, не падтрымліваць яго, не згаджацца з антыдэмакратычнымі зменамі ў Канстытуцыі, пра якія ён мае намер запытацца ў вас на чарговым рэферэндуме. Мы заклікаем вас падтрымаць магчымае аб'яднанне і згоду ўсіх партый і палітычных рухаў, якія збіраюцца паставіць заслону дыктатарскім схільнасцям Лукашэнкі і ўзняць пытанне аб яго імпічменце. Не дайце зноў гэтай восенню ашукаць сябе, бо ўмовы вашага жыцця могуць стаць яшчэ горшымі і зусім невыноснымі.

Трымайцеся, людзі добрыя. Ад вас залежыць, хто будзе вамі кіраваць і па якім шляху пойдзе наша Бацькаўшчына.

Жыве Беларусь!

**ЗВАРОТ ПРЫНЯТЫ НА З'ЕЗДЗЕ БЕЛАРУСАЎ ЗША І КАНАДЫ.**

*1.09.1996*

***Вада... Яна — пачатак жыцця, яна — само жыццё. Станаўленне, развіццё ці заняпад той ці іншай цывілізацыі на зямлі звязаны з вадой. Працягласць жыцця чалавека, ягонае здароўе, ягоны дабрабыт таксама напрамую залежаць ад той самай вады, якую ён спажывае.***

***А вада, на жаль, бывае розная. Чыстая і брудная. Жывая і мёртвая. Зусім нездарма пра яе, жывую і мёртвую, гаворыцца ў казках. Зусім нездарма ходзяць легенды і паданні пра цудадзейныя крыніцы са святой вадою, якая ад усялякіх хвароб пазбаўляе і ўсялякія беды-напасці адводзіць.***

***Зберагчы на зямлі жывую ваду можа толькі сам чалавек. Адносіны да роднай прыроды — вось сёння крытэрый узроўню культуры чалавека, грунт нашай маральнасці. Сітуацыя сёння такая, што нам ужо не абысціся без такіх новых этычных катэгорый, як нормы экалагічнай маралі. Выпрацаваць гэтыя нормы і прывіць іх усім, хто жыве і працуе на зямлі, усім, хто мае дачыненне да выкарыстання прыродных рэсурсаў, наогул усім чыста людзям — вось задача задач. Бо тое, якім будзе навакольнае асяроддзе, як сацыяльна-эканамічнае развіццё будзе ўпісвацца ў экалогію, залежыць найперш ад чалавека, як ён зможа выкарыстаць прыродныя рэсурсы. І найперш — водныя. Бо яны, па прычыне іх узнаўляльнасці, дынамічнасці і трансгранічнага пераносу, не прызнаюць палітычных і адміністратыўных межаў і з'яўляюцца агульным багаццем усяго жывога на зямлі.***

***Вады на ёй быццам бы хапае. На першы погляд, дык аж занадта. Але якой вады? Калі ўзяць пітную, дык яе якраз і не хапае. З праблемамі забеспячэння насельніцтва якаснай пітной вадой сутыкаюцца сёння шматлікія рэгіёны і краіны. Не абышлі яны і Беларусі. Як ні горка пра гэта гаварыць, а становішча сёння такое, што, жывучы ў краі "чыстых крыніц і блакітных азёр", п'ём ваду, на жаль, кепскую. Не святую, жывую ваду, а — брудную, атручаную, мёртвую. Нашы крыніцы ўжо даўно не чыстыя, а рэкі і азёры — не блакітныя. Колькасць захворванняў у выніку атручвання вадою вялікая. Гэта тычыцца і водаправоднай вады ў гарадах. Але асабліва шкоднае хімічнае і бактэрыялагічнае забруджванне грунтавых вод у сельскай мясцовасці. Раней вельмі вялікае значэнне надавалі таму, дзе выкапаць калодзеж, на якую глыбіню яго капаць, як абсталяваць, каб якасць вады з гадамі не пагаршалася. Тыя колішнія вадазнаўцы адышлі ў нябыт, а сённяшнія гаспадары шукаць месца пад калодзеж не навучаны, капаюць абы-дзе, неглыбокія. Пяць—сем шасцідзесяцісантыметровых бетонных колцаў — вось вам і калодзеж. І, як гавораць даследаванні,сёння ў Беларусі доля неглыбокіх калодзежаў з няякаснай (мякка кажучы) вадой складае больш чым 45 працэнтаў, а па Віцебскай вобласці — амаль 80. Зрэшты, спашлюся і на свае ўласныя назіранні. Вось ужо каторы год запар праводжу свае адпачынкі і выхадныя дні ў вёсцы на Лагойшчыне. Паблізу ад хаты — два калодзежы, але ваду з іх спажываць не хочацца, хоць яна нібыта празрыстая, чыстая. Досыць вадзе нейкі час пастаяць у вядры, як на паверхні яе з'яўляюцца масляныя плямы, пасля кіпячэння на сценках посуду асядае тоўсты пласт накіпу. І толькі ў адным вясковым калодзежы сапраўды чыстая і смачная вада, прыдатная і для піцця, і для гатавання стравы, і для кансервавання садавіны і гародніны. Але ж калодзеж той — на канцы вёскі і ваду з яго бяруць гаспадары некалькіх бліжэйшых хат, усе ж астатнія спажываюць няякасную ваду.***

***І такая, ці падобная сітуацыя, на жаль, у большасці нашых вёсак, нават у тых, дзе ёсць водаправоды, бо ад пастаяннага забруджвання церпяць не толькі рэкі і азёры, але і грунтавыя воды, якія жывяць калодзежы. Што мы п'ём, спадарове?! Дасведчаныя людзі, у прыватнасці, медыкі сцвярджаюць, што менавіта ад пастаяннага ўжывання кепскай,па сутнасці атручанай, мёртвай вады ў нас набылі такое жахлівае пашырэнне захворванні страўнікава-кішэчнага тракту ў вяскоўцаў, самыя розныя хваробы ў дзяцей, асабліва такая хвароба, як метгемаглабінемія. Менавіта аб праблемах пітной вады, аб тых прычынах, якія спараджаюць гэтыя праблемы, аб тым, што нам усім трэба рабіць, каб спажываць усё ж сапраўдны дар прыроды — чыстую ваду, я гутарыла са спецыялістам, членам-карэспандэнтам Беларускай інжынернай тэхналагічнай акадэміі, намеснікам дырэктара Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута комплекснага выкарыстання водных рэсурсаў (ЦНДІ КВВР) Герардам ШЧАРБАКОВЫМ.***

*ПРЫРОДА І МЫ*

# ШТО П'ЁМ, СПАДАРОВЕ?

**— Герард Апанасавіч, што найперш і найбольш атручвае, забруджвае ваду нашых калодзежаў?**

— Самая галоўная пагроза для калодзежнай вады — гэта нітратнае і бактэрыяльнае забруджванні. Засцерагчыся ад іх надзвычай цяжка, што абумоўлена асаблівасцямі нашых прыродных умоў. А яны заключаюцца ў тым, што вада ў нас вельмі блізка ад паверхні зямлі, а сама глеба мае пераважна лёгкі састаў. І з гэтае прычыны нітраты трапляюць у водныя гарызонты практычна без перашкод. Ды ўсё ж галоўная прычына ў тым, што ў нас пануе заканадаўства, у аснове якога словы, так бы мовіць, загаднага ладу: "Зачыніць", "забараніць", "знішчыць" і г.д. Як падыходзяць да гэтай праблемы на Захадзе? Там экалагічная дзейнасць плануецца ў межах вадазбораў рэк. Гэта значыць, што ў межах гэтага вадазбору там плануецца і рэгулюецца ўся гаспадарчая дзейнасць. У нас, на жаль, гэтага няма. Сельская гаспадарка — інтэнсіўная, усё навокал разарана, а там, дзе разарана, — велізарная рызыка эрозіі глебы, там нітраты і фасфаты лёгка вымываюцца і трапляюць у паверхневыя вадасцёкі. А возьмем розныя гербіцыды і пестыцыды. Апошнім часам, з-за дарагоўлі, ужыванне іх зменшылася (амаль у чатыры разы), а яшчэ зусім нядаўна яны выкарыстоўваліся ў нашых калгасах і саўгасах досыць шырока. І выкарыстоўваліся, на жаль, вельмі часта "на вока", рассыпалі і распыльвалі. І яны, натуральна, праменькім шляхам таксама траплялі ў рэчкі, азёры, калодзежы... Тое ж самае можна сказаць і пра нашы прадпрыемствы. У вытворчых адходах многіх з іх ёсць, скажам, цяжкія металы — ці не самая страшная атрута. І што? Гэтыя адходы, надараюцца такія выпадкі, збіраюцца ў спецыяльныя ёмістасці, каб аднойчы цёмнай ноччу скінуць іх у... раку, возера і да т.п. І хто гэта зрабіў — знайсці цяжка, а то і немагчыма. Вядома, часам знаходзяць і караюць, і караюць нібыта сурова, але ўсё гэта прыносіць невялікую карысць. У краінах, дзе заканадаўства нібыта "мякчэйшае", яно разам з тым — намнога больш эфектыўнае. Там заканадаўства арыентуе самога карыстальніка прыродных рэсурсаў берагчы прыроду, а не адно — баяцца карных санкцый. Скажам, у Фінляндыі, Германіі сам фермер рэгулюе сваю гаспадарчую дзейнасць. Яны вызначаюць, зыходзячы з нормаў забруджвання, колькі кароў павінна быць на гектар зямлі — ну там 3 каровы ці паўтары. Гной прадуцыруе ў асноўным азот і фосфар. І вось, зыходзячы з сярэдняй ураджайнасці, павінен быць дасягнуты баланс мінеральных і арганічных угнаенняў, каб арганіка нізавошта не перавышала норму. Бо калі арганічных угнаенняў будзе больш, чым трэба, пачынаецца вышчалочванне глебы.

У нас такое сёння практычна немагчыма. Нам хоць бы дамагчыся рэгулявання сельскагаспадарчай дзейнасці ў межах вадазбораў. У інстытуце мы маем метадычныя распрацоўкі, якія дазваляюць пралічыць, як развіваць гаспадарчую дзейнасць, вызначыць, дзе можна павялічваць тую ці іншую вытворчасць, а дзе яе трэба згортваць, бо вялікая небяспека павелічэння забруджвання вадаёмаў.

**— Ці прыслухоўваюцца гаспадарнікі да вашых рэкамендацый?**

— Як вам сказаць... Хутчэй — не прыслухоўваюцца. У нашым Міністэрстве прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя ёсць водная інспекцыя. Інспектары праверылі, скажам, нейкі аб'ект, некага аштрафавалі за нанясенне шкоды прыродзе — вось і ўсё. Тут прынцыпова што? Сам падыход да праблемы, падыход адміністравання, які дае чыноўнікам магчымасць суб'ектыўна рашаць тыя ці іншыя пытанні. Калі б быў іншы падыход да справы, калі б былі басейнавыя камісіі, якія б маглі планаваць тую ці іншую сельскагаспадарчую вытворчасць ці прамысловую дзейнасць і разам з тым самі былі ў адказе перад дзяржавай за чысціню той самай вады, становішча было б іншае. Калі няма басейнавых схем, а толькі палітыка адміністравання — вынікі будуць кепскія. Такі падыход — не дзяржаўны. Гэта прынцып сваяцтва, прымаўкі "рука руку мые": прыйшоў кум ці сваяк, дамогся выдзялення грошай, месца — вось і будуе, а там хоць трава не расці.

**— А будаўнічыя нормы і правілы, палажэнне аб парадку праектавання і эксплуатавання зон санітарнай аховы крыніц водазабеспячэння? А экалагічная служба? Хіба без узгаднення з ёю можна штонебудзь будаваць?**

— Нельга, вядома. Але — узгадняюць і... будуюць нават у 30-метровым радыусе вакол свідравіны, дзе ўвогуле забараняецца ўсялякае будаўніцтва. Нават у водаахоўных зонах умудраюцца будаваць, і не толькі катэджы, а там жа павінен быць спецыяльны рэжым гаспадарчай дзейнасці ў спалучэнні з сістэмай тэхналагічных, землеўпарадкавальных і прыродаахоўных мерапрыемстваў, якія прадухіляюць засмечванне, забруджванне вод, не дазваляюць парушаць стан водных экасістэм.

Для піцця ў гарадах у нас выкарыстоўваецца пераважна артэзіянская вада, якасць якой нядрэнная. Аднак частка насельніцтва забяспечваецца рачной вадой, якую патрабуецца асабліва пільна ачышчаць. Звычайна для гэтага скарыстоўваюць хлор і азон, але гэта можа прывесці да страты якасці вады за кошт непажаданых пахаў і прысмакаў. На жаль, замяніць сёння пакуль хлорку няма чым.

**— Дзе ж выйсце, Герард Апанасавіч? Што рабіць? Няякасная вада стала для беларусаў нацыянальнай трагедыяй. Мы прывыклі ўсе ракавыя захворванні, захворванні страўнікава-кішэчнага тракту спісваць, так бы мовіць, на Чарнобыль, аказваецца — беды нашы і ад вады?**

— Выйсце тут адно, немудронае: людзі павінны піць чыстую ваду. Ваду з падземных гарызонтаў. Калі ж няма такой магчымасці, неабходна шукаць іншае выйсце. У Чэхіі, напрыклад, усе немаўляты забяспечаны крыштальна чыстай вадой, расфасаванай у спецыяльныя дзіцячыя бутэлечкі. Без вады адназначна — і ні туды і ні сюды, таму сродкаў на тое, каб забяспечыць людзей чыстай вадой, нельга шкадаваць. Гэта зарука здароўя нацыі. Калі, скажам, сёння дзяржава не можа забяспечыць кожную вёску артэзіянскай свідравінай, трэба прывозіць чыстую ваду ў цыстэрнах. І гэта не павінна ўспрымацца дзівацтвам ці, выбачайце, прыдурствам. Маўляў, у Беларусі развозіць ваду ў цыстэрнах — ці не абсурд?! Не, не абсурд! Чалавецтва сёння — на мяжы экалагічнай гібелі. І мы з вамі тут не выключэнне, у нас, у Беларусі, сітуацыя не лепшая, чым у іншых краінах, далёкіх і блізкіх, а ў тым-сім і горшая.

**— Герард Апанасавіч, зараз ёсць у продажы, шырока рэкламуюцца па тэлебачанні розныя бытавыя фільтры для ачысткі вады. Маўляў, пасля праходжання праз фільтр вада ачышчаецца ад шкодных хімічных элементаў, бактэрый, цяжкіх металаў, пяску, іржаўчыны і г.д. Гэта сапраўды панацэя?**

— Сам па сабе фільтр рэч, безумоўна, добрая. Той самы, да прыкладу, фільтр "Смарагд", які забяспечвае шматступенную ачыстку вады: спачатку ад пяску, іржаўчыны, пасля ад цяжкіх металаў, нітратаў, свінцу, алюмінію, цынку... Тым не менш, гэта, як вы кажаце, не панацэя. Як вядома, у некаторых з іх для ачышчэння выкарыстоўваюцца сарбацыйныя матэрыялы. І тут небяспека ў тым, што можа трапіцца нейкае забруджванне, напрыклад, карасін, які заб'е ёмістасць фільтра, і ён перастане ачышчаць ваду. А індыкатара, каб праверыць, атрымліваеце вы чыстую ваду ці брудную, у вас няма. Затое ёсць верагоднасць таго, што пасля такой ачысткі вада можа стаць яшчэ больш небяспечнай, чым да чысткі.

**— А якой вы думкі наконт нібыта цудадзейных якасцей "крэмніевай вады"?**

— З цудадзейнымі якасцямі хай разбіраюцца медыкі, а што крэмень ваду ачышчае, дык гэта адназначна. Так званая крэмніевая вада — гэта экалагічна чыстая вада, крэмень сапраўды сарбіруе цяжкія металы, і алюміній, і цынк, хоць працэс ачышчэння тут і замаруджаны...

**— Вада — гэта такое неабдымнае паняцце, што ахапіць усе водныя, так бы мовіць, праблемы бадай немагчыма. Аднак жа хочацца спытаць і вось пра што. Неяк я пачула, што нібыта ў Мінску вызначана такая норма водакарыстання — 300 літраў на чалавека ў суткі. Адкуль узялася такая лічба? Няўжо сапраўды чалавеку патрэбна столькі вады?**

— Мяркую, што лічба гэтая чыста ўмоўная. Пакуль што індывідуальнага ўліку спажывання вады ў нас не вядзецца, пытанне гэтае па сёння на ўзроўні размоў. А між тым, яно стаіць востра. Мы не навучыліся берагчы ваду. Уцечка яе складае ў гарадах да 30 працэнтаў. Цякуць краны, змыўныя бачкі дзень і ноч не толькі на прадпрыемствах, але і ў кватэрах. Адсюль — перагрузка ачышчальных збудаванняў, дадатковыя нагрузкі на водаправод, вялікія страты электраэнергіі. На Захадзе ж улік вады вельмі строгі. Возьмем, да прыкладу, Фінляндыю. Да 1972 года фіны, як і мы, спажывалі вады вельмі шмат. Лічылася, што чым больш вады спажываецца ў краіне, тым вышэйшы дабрабыт яе людзей. Потым, у 1973 годзе, у годзе нафтавага крызісу, пачалі лічыць і эканоміць паўсюль, у тым ліку і ў спажыванні вады. Ад прынцыпу чым больш, тым лепш адмовіліся, ваду пачалі "мераць" і падлічваць. Сёння ў Еўропе нормай лічыцца 140—160 літраў вады на чалавека ў суткі, у нас жа сапраўды — 260—300 літраў. І да таго часу, пакуль кватэры не будуць абсталяваны індывідуальнымі лічыльнікамі ўліку вады, а кошт яе для спажыўцоў не будзе ўлічваць усіх выдаткаванняў на ахову вады, яе падрыхтоўку, ачышчэнне і дастаўку, — рэальнай эканоміі мы не даб'ёмся.

Зараз Міжнародны банк рэканструкцыі і развіцця вывучае тры нашы водаканалы — Брэсцкі, Віцебскі і Гродзенскі — на прадмет фінансавання рэканструкцыі іх ачышчальных збудаванняў. Дзеля гэтага водаканалы павінны быць рэнтабельнымі. А рэнтабельнымі яны стануць толькі тады, калі падняць цану вады ў 5 разоў. Толькі тады водаканал пачне прыносіць прыбытак і толькі тады банк дасць яму крэдыт. І калі цана вады ўзрасце ў 5 разоў, мы таксама задумаемся: ці зараз заплаціць мільён рублёў за прыбор уліку вады, ці той жа мільён плаціць за ваду? Лепш, вядома, адзін раз заплаціць мільён за лічыльнік і больш эканомна яе спажываць. Тады і мы дасягнем сусветнага ўзроўню спажывання вады. Карацей кажучы, пакуль вада будзе бясплатнай, шанаваць яе людзі не будуць.

**— Герард Апанасавіч, вернемся ўсё ж да галоўнай тэмы нашае гутаркі. Вось паведамленне друку: летась у нашы вадаёмы скінута 20 тысяч тон шкодных і атрутных рэчываў — у выглядзе розных адходаў прамысловай вытворчасці. Мусіць жа, і тым самым водаканалам спатрэбіліся б не такія магутныя ачышчальныя збудаванні, каб нашы вадаёмы і падземныя водныя гарызонты не зведвалі гэтакіх страшэнных атручвальных уздзеянняў.**

— Ёсць розныя віды іх ачысткі. Для гэтага могуць быць выкарыстаны розныя фізічныя, біялагічныя і біяхімічныя працэсы. Механічнае ачышчэнне дазваляе выдаляць толькі цвёрдыя рэчывы — галоўным чынам шляхам асадку ў адстойніку. Біялагічнае, традыцыйнае, якое ў нас найбольш і прымяняецца, уключае аэрацыйны басейн пасля адстойніка, дзе бактэрыі могуць акісліць значную частку арганічных адходаў, якія засталіся пасля адстойвання.

Сёння гэты біялагічны метад ачышчэння ўсё больш выцясняецца біяхімічным метадам. Тут для павышэння эфектыўнасці ачысткі вады дадаюць розныя хімікаты. Гэты метад самы дарагі ў плане капіталаўкладанняў. У Швецыі, напрыклад, біяхімічнымі метадамі ачышчаецца да 90 працэнтаў сцёкаў, чыста біялагічныя там практычна адсутнічаюць. Мы ж у гэтай справе адстаём ад краін Захаду гадоў на 25. Сцёкі ў нас напалову ачышчаюцца біялагічнымі метадамі, астатнія альбо толькі адстойваннем, альбо зусім не ачышчаюцца.

**— Гэта вы гаварылі, я так разумею, аб прамысловых сцёкавых водах. А калі згадаць вёску? Шматлікія свінагадоўчыя комплексы, жывёлагадоўчыя фермы, сялянскія сядзібы, урэшце? Усе разам яны ж таксама труцяць, забруджваюць падземныя гарызонты, запаўняюць нітратамі тыя ж вясковыя неглыбокія калодзежы, пра якія мы гаварылі...**

— Вось гэтая праблема сёння стаіць асабліва востра. Гэтыя так званыя дыфузныя крыніцы забруджвання вады рассеяны па ўсёй Беларусі. У нас у інстытуце створана камп'ютэрная сістэма, у якую закладзены ўсе так званыя "кропкавыя" крыніцы забруджвання, прыкладна 4,7 тысячы такіх "кропак", практычна ўсе буйнейшыя прадпрыемствы краіны. Інфармацыя аб тым, колькі яны паасобку і разам робяць выкідаў, а таксама інфармацыя, пра "якасць" іх паступае ў камп'ютэр, назапашваецца, аналізуецца, што дае магчымасць пэўным чынам кантраляваць і рэгуляваць гэты працэс выкідаў. А вось "рассеяныя" крыніцы забруджвання такой сістэмай інфармацыі і кантролю не ахоплены, зрабіць гэта практычна немагчыма. А між тым яны складаюць да 60—75 працэнтаў аб'ёму забруджванняў. І загаварылі пра іх у нас параўнаўча нядаўна, прызналі нарэшце іх шкоднасць. Само сабою, што працы тут — непачаты край. Прытым працы, якая вымагае велізарнейшых капітальных укладанняў. Аднак жа немалую ролю можа і павінна адыграць іншае — павышэнне экалагічнай свядомасці нашых людзей, усіх, ад старога да малога,

*(Працяг на стар. 12)*

Віншуем!

# ІДУЧЫ АД ПЕРАЖЫТАГА

## Васілю ПЕТРУЧУКУ — 70

Выпадак не такі і часты ў літаратуры, але разам з тым і адзінкавым яго не назавеш. Хоць і рэдкі, аднак з'яўляюцца пісьменнікі, якіх можна назваць аўтарамі адной кнігі. Нават не ў тым сэнсе, што імі больш нічога не створана. Проста гэтая адзіная кніга вельмі ярка раскрывае аўтарскае дараванне. Ёсць падставы гаварыць так і пра Васіля Петручука. Яго шмат у чым аўтабіяграфічная аповесць "Пожня" выдавалася спачатку на польскай мове, двойчы выходзіла па-беларуску: у Беластоку (1987) і ў нас, у "Мастацкай літаратуры" (1991) і прынесла пісьменніку заслужаную вядомасць як на радзіме, так і за яе межамі. Аўтар напісаў яшчэ некалькі апавяданняў і навел, не кажучы пра публіцыстыку, краязнаўчыя нарысы на старонках беластоцкай "Нівы".

Нарадзіўся В. Петручук 23 жніўня 1926 года ў вёсцы Грабавец на Беласточчыне. Дату ўдакладніў пазней, калі прайшоў нямала шляхоў-дарог. Маленства ж маё сіроцкае, не да таго было, каб памятаць падобныя "дробязі". Болем ад радасным, слёзным маленстве напоўнены і пачатак аповесці: "Нарадзіўся ў 1926 годзе, але ніхто не ведаў, у якім месяцы; і мяне таксама гэта не цікавіла. Дзядзіна гаварыла, што "дзесьці летам..." Ведаю, што калі жыву, значыцца, нарадзіўся, — і тое, што было мне ўсяго паўтара года, калі памерла мая маці. Пасля смерці маёй маці мой лёс цікавіў сваякоў столькі, колькі леташні снег". З-за гэтай самай непрыкаянасці, жыццёвай няўтульнасці і беспрытульнасці, калі нікому ты непатрэбен і нікому да цябе няма справы, В. Петручук доўга шукаў месца ў жыцці, бо, каб прыйсці ў літаратуру, яму найперш неабходна было ўпэўніцца, што зусім не лішні на зямлі.

Надоўга звязаў лёс з арміяй, закончыў школу контрразведкі. Калі выйшаў у адстаўку, зблізіўся з рэдакцыяй газеты "Ніва", якой цікавіўся і раней. "Беларусам жа, — прызнаецца, — сябе адчуваў заўсёды, дзе б ні жыў і дзе б ні працаваў. Маю на ўвазе, вядома, сваё дарослае жыццё. Прытым аніякія крутыя павароты палітычнага характару не змянілі мяне, хаця я ў іх браў непасрэдны ўдзел як афіцэр. Не перамяніла мяне і польскамоўнае асяроддзе, у якім я жыў і працаваў".

І вось гэты самы беларус, як цяпер прынята казаць, беларус свядомы, апынуўся ўжо ў беларускамоўным асяроддзі, сярод аднадумцаў. У "Ніве" дзякуючы В. Петручуку з'явілася пастаянная рубрыка "Якія мы людзі". Сам і вёў яе. Ад нататак, артыкулаў перайшоў да прозы. Першае апавяданне "Закалядаваў" надрукаваў у 1975 годзе, пасля другое, трэцяе. Паказаў іх С. Яновічу як больш вопытнаму літаратару. Той запрыкмеціў у В. Петручука талент пісьменніка, падказаў: "А ты напішы кніжку!" Так з асобных апавяданняў, замалёвак і пачала нараджацца будучая аповесць "Пожня".

Аповесць у апавяданнях — так можна вызначыць жанр "Пожні". Прынамсі: падобнай думкі прытрымліваецца і С. Андраюк, з пасляслоўем якога "Свая старонка" яна выйшла ў "Мастацкай літаратуры" (прадмова "Слова аб запісаным жыцці" С. Яновіча).

Колькі пісалася ў літаратуры аб гаротным маленстве, у тым ліку і ў Беларусі! Але справа ў тым, што ўсё гэтае "вядомае" ўражвае той праўдай, якая пры ўсёй яе знаёмасці кожным разам свая, а таму і непаўторная. Яе не прыдумаеш, не народзіш нават самай багатай фантазіяй. Бо ўсё гэта перажыта, адчута, так сказаць, на сваёй скуры. Споведзь В. Петручука — боль, незагоены з гадамі. Даверлівы расказ аўтара як напамінак — барані Божа, каб нешта падобнае паўтарылася.

Зло само па сабе не з'яўлялася, а нараджалася з галечы, сацыяльнай няроўнасці. Азлабленне і прыводзіла да жорсткасці. Спачатку да хатняй жывёлы. Нездарма ж пасля таго, як мачыха жорстка забіла сабаку за тое, што той з'еў кураняты, у хлопчыка ў душы як бы нешта перавярнулася: "Закапаў я Бурку разам са сваёю верай у чалавека, зрабіў магілу і, паплакаўшы над сваім лёсам, вярнуўся да штодзённых заняткаў". Але малая жорсткасць нараджае і большую. Невыпадкова ўжо з вышыні пражытага В. Петручук прыгадвае дзядзьку Вусача, які мог узяць хлопчыка за вуха і выкінуць яго з хаты: "Не магу сказаць, што гэта былі дрэнныя людзі, не. Гэта адпавядала ўсяму тадышняму жыццю". Быў жа яшчэ і нейкі Паўлік, які завёз роднага сына і пакінуў у лесе. Загінуў бы хлопчык, калі б салдаты выпадкова не завіталі па дровы.

Як у сувязі з гэтым не прыгадаць навелу В. Петручука "Вярнулася сірочае шчасце". Яна — свайго роду дапаўненне да "Пожні". Зноў сірочае маленства, ды толькі прыгадваецца яно праз шчаслівы сон. Аднак хіба шчасце, пабачанае, адчутае ў сне, не ілюзорнае? — "Прыгажосць садочка я навучыўся бачыць праз слёзы крыўды, якой мне людзі не шкадавалі". Пякучы гэты боль сірочага маленства, які яшчэ пякучы! І так патрэбны. Як напамінак аб мінулым. Усім нам. А можа, у большай ступені тым, хто вельмі ж ужо ўслаўляе ўсё, што было "да саветаў". Усякага было, панове. Усякага. Праўда, дык праўда без крайнасцяў. Ні ў адзін бок, ні ў другі.

В. Петручук працуе над працягам "Пожні". Новая яго аповесць "Паганец" таксама пабудавана на аўтабіяграфічным матэрыяле. У накідах і кніга "Ой, чыя то хата". Як прызнаецца аўтар, яна "аб вясковым жыцці ў даваенны час на беларускай вёсцы".

Застаецца пажадаць Васілю Уладзіміравічу новых творчых поспехаў!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Сярод кніг

# ПАДАРУНАК ЗААКІЯНСКАГА БЕЛАРУСА

Літаральна днямі ў выдавецкім цэнтры "Бацькаўшчына", якім кіруе літаратуразнаўца і грамадскі дзеяч Яўген Лецка, выйшла кніга Янкі Запрудніка "Беларусь на гістарычных скрыжаваннях". Колькі гадоў таму яна ўпершыню пабачыла свет у англійскай мове і была прыхільна сустрэта самымі шырокімі і разнастайнымі коламі чытачоў. Цяпер магчымасць азнаёміцца з ёю атрымалі і грамадзяне нашай краіны.

І пажадана, каб такую магчымасць выкарыстала як мага большая колькасць людзей, азнаямленне з гэтай кнігай, несумненна, дапаможа лепш зразумець тыя старонкі нацыянальнай гісторыі, якія па самых розных прычынах ці зусім не краналіся, ці асвятляліся з неаб'ектыўных пазіцый.

Гісторык катэгарычна на баку тых, хто адмаўляе факт існавання адзінай для ўсіх усходнеславянскіх народаў старажытнарускай дзяржавы, адзінай старажытнарускай народнасці, сцвярджаючы наступнае: "...такое народнасці не існавала. І не магло існаваць — бо для яе не было агульнай ідэі. Супольную хрысціянскую веру, якая прымусова насаджалася ці нават пускала карані, і мала кім ужываную літаратурную царкоўнаславянскую мову... перасільвалі глыбока ўкаранёныя ў свядомасць сярэдневечнага чалавека племянныя сувязі і мясцовыя звычаі. Бясконцыя міжусобныя войны таксама не спрыялі адчуванню "агульнарускае народнасці". Цвярджэнні аб існаванні гэткай нацыянальнасці — палітычная прыхватка, спроба заднім днём апраўдаць пазнейшую экспансію Масквы, што перарасла ў царскую велікарускую, а пазней у камуністычную імперыю". Аўтар асвятляе і перыяд станаўлення і жыцця Вялікага княства Літоўскага, падзяляе пункт гледжання, што "ўтварэнне Вялікага княства адбылося ў значнай меры добраахвотна, у тым ліку праз шлюбы, як вынік шматвяковага суіснавання славянскіх і балцкіх народаў yперамежку яшчэ да ўзнікнення супольнае дзяржавы". Ён абгрунтавана выступае супраць тых, хто на ВКЛ глядзіць як не на беларускую з'яву, пішучы: "...гаварыць пра Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае як пра чыста або пераважна літоўскую дзяржаву — значыць скажаць мінуўшчыну, характарызуючы яе ў тэрмінах і паняццях зусім іншай эпохі".

Належнае асвятленне ў кнізе атрымалі далёка не простыя і вельмі супярэчлівыя стасункі Вялікага княства Літоўскага з Польскай Каронай. З аб'ектыўных пазіцый паказана, якую ролю адыгралі тут паходы ордэна тэўтонцаў на землі гэтых дзвюх славянскіх дзяржаў, ускладненне адносінаў паміж ВКЛ і Масковіяй, што з асаблівай моцай праявілася пасля захопу апошняй у 1563 г. беларускага горада Полацка.

Асвятленне Янкам Запруднікам мінулага нашай краіны выгадна адрозніваецца ад таго, што ўжо зроблена іншымі аўтарамі тым, што ён ніколі не ўпускае з поля зроку рэлігійнага аспекту. Датычыць гэта і ранніх этапаў існавання хрысціянства на беларускіх землях, і вечных непаразуменняў паміж праваслаўнымі іерархамі ВКЛ, Кіеўскай і Маскоўскай мітраполій, і сур'ёзных сутыкненняў паміж праваслаўем і каталіцызмам на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. І вельмі важна, што ў кнізе паказана зусім нялёгкая, складаная барацьба свецкіх і духоўных уладаў нашай дзяржавы за стварэнне сваёй уласнай, незалежнай ад Масквы праваслаўнай мітраполіі, бо без вырашэння гэтай праблемы немагчыма было б забяспечыць беларускаму народу сапраўднага нацыянальнага суверэнітэту. Не абышоў увагай аўтар і Берасцейскую царкоўную унію 1596 г. Не прыводзячы ў якасці абгрунтавання адпаведных фактаў, Янка Запруднік усё ж сцвярджае: "...рэлігійная унія немінуча зрабілася сродкам паланізацыі беларусаў і украінцаў", што, як вынікае са сказанага, супярэчыць поглядам многіх вучоных, якія разглядаюць уніяцкую царкву як беларускую нацыянальную і лічаць, што менавіта яна на працягу доўгага часу з'яўлялася сур'ёзнай перашкодай для паланізацыі і русіфікацыі карэннага насельніцтва нашага краю.

Арыгінальным у раскрыцці гісторыі нашага краю ў той час, калі ён пакутаваў пад уладай расійскага імперскага рэжыму, з'яўляецца імкненне Янкі Запрудніка прасачыць працэс узнікнення і ўвасаблення беларускай нацыянальнай ідэі. Вытокі яе аўтар справядліва бачыць у поглядах перадавых прафесараў Віленскага універсітэта, які быў зачынены неўзабаве пасля задушэння паўстання 1830 — 1831 гг. Сцвярджэнню гэтай ідэі, як нішто іншае, садзейнічала літаратурнае абуджэнне. На паказ апошняга не пашкадавана старонак у кнізе. Заснавальнікам як беларускага нацыяналізму ў яго найлепшым праяўленні Янка Запруднік лічыць кіраўніка паўстання 1863 г. Кастуся Каліноўскага.

Высока і зусім справядліва ацэнена роля ў зараджэнні, развіцці беларускай нацыянальнай ідэі нашых народнікаў. У 80-х гадах у іх поглядах нават сфармавалася думка аб неабходнасці змагання за федэратыўную самастойнасць Беларусі. Ажыўленню беларускасці добра паслужыў калектыў газеты "Наша Ніва".

У якасці прыкладаў нацыянальнага абуджэння беларускага народа і найперш яго інтэлігенцыі ў кнізе прыгадваюцца: складзеная братамі Іванам і Антонам Луцкевічамі, іх літоўскімі, польскімі і яўрэйскімі аднадумцамі дэкларацыя пра заснаванне "Канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага" (апублікавана 15 студзеня 1915 г.), выдаваная з лютага 1916 г. у Вільні газета "Гоман", прызнанне ў тым жа годзе камандаваннем кайзераўскіх войскаў беларускай мовы ў якасці адной з афіцыйных у рэгіёне, стварэнне першых ста беларускіх школ на Віленшчыне, адкрыццё ў Свіслачы беларускай гімназіі.

Нязвыклым для айчыннай гістарыяграфіі з'яўляецца падыход Янкі Запрудніка да паказу міжваеннай Беларусі. Ён не стаў падзяляць яе на БССР і Заходнюю Беларусь, а змясціў гэтыя разарваныя па-жывому часткі разам пад адным загалоўкам "Савецкая і польская палітыка ў падзеленай Беларусі (1921—1941 )". Аўтар бачыць істотную розніцу ў іх лёсе, аддаючы пэўную перавагу (асабліва ў 20-я гады) савецкай Беларусі: "На савецкім баку фармальна існавала, хоць тэрытарыяльна і ўрэзаная, беларуская дзяржава, якая здабыла міжнароднае прызнанне... Варшава, адваяваўшы ад бальшавікоў значныя тэрыторыі Украіны і Беларусі, што ўваходзілі некалі ў гістарычную Рэч Паспалітую, усімі сіламі імкнулася да іх палітычнага і культурнага зліцця з Польшчаю". Гэта справядлівая высвова прадмацаваная фактычным матэрыялам. Несумненны прагрэс бачыцца ў тым, што БССР удалося значна пашырыць сваю тэрыторыю за кошт вяртання ёй ад РСФСР карэнных беларускіх земляў, разгарнуць у даволі буйных маштабах сваю эканамічную дзейнасць. Станоўчая і зусім аб'ектыўная адзнака дадзена дасягненням у галіне культуры, што стала магчымым дзякуючы правядзенню палітыкі беларусізацыі.

Нічога падобнага не назіралася ў Заходняй Беларусі. Яе нацыянальныя інтарэсы, як вынікае з прыведзеных у кнізе фактаў, улічваліся толькі два-тры гады пасля падпісання ў 1921 г. Рыжскага трактата. Затым пачалася адкрытая паланізацыя "Крэсаў Усходніх". Аўтарытарны рэжым Польшчы пайшоў нават на ануляванне 13 верасня 1935 г. трактата Лігі Нацыяў аб этнічных меншасцях.

Пад гэты час усё карэнным чынам адмянілася і ў савецкай Беларусі. Нібы па інерцыі савецкая рэпрэсіўная машына адразу ж укацілася і на тэрыторыю далучанай у верасні 1939 г. да БССР Заходняй Беларусі. Чытачу даецца магчымасць даведацца пра агульны лік высланых адсюль чалавек, прозвішчы арыштаваных грамадскіх дзеячаў і выдатных прадстаўнікоў інтэлігенцыі. У самых змрочных танах характарызуюцца перамены эканамічнага жыцця ў толькі што занятай Чырвонай Арміяй Заходняй Беларусі: "Крамы апусцелі за колькі тыдняў. Тое, што ў іх яшчэ заставалася, расхапалі за любую цану савецкія салдаты. Здабыць соль, мыла, цукар і іншыя тавары штодзённага попыту зрабілася цяжка. Тавары, завезеныя з Савецкага Саюза, былі значна ніжэйшае якасці".

Агульнавядома, што гісторыкі з беларускай дыяспары шмат у чым разыходзяцца са сваімі калегамі з метраполіі ў паказе падзей Другой сусветнай вайны ўвогуле і нямецкай акупацыі іх Бацькаўшчыны ў прыватнасці. Пэўныя разыходжанні ў ацэнках тагачаснага жыцця трапляюцца і ў данай публікацыі.

Затое ніхто з гісторыкаў Беларусі не запярэчыць Янку Запрудніку, калі ён піша, што нямецкая акупацыя была перыядам "самых спусташальных стратаў за ўсю беларускую гісторыю", што "ад нямецкае лютасці мясцовае насельніцтва ахапіў жах", што "ўсе важныя палітычныя і эканамічныя справы заставаліся цалкам у руках акупацыйных уладаў".

У зусім нязвыклай для айчынных гісторыкаў форме вядзе Янка Запруднік гаворку пра пасляваенную Беларусь. Тут яго найперш цікавяць чысткі партыйнага і дзяржаўнага апарату і палітыка русіфікацыі і толькі затым ужо аднаўленне эканомікі. Паказвае аўтар і супраціў нацыянальна-самасвядомай часткі беларускага народа палітыцы русіфікацыі. У ліку тых, хто не ішоў на здраду нацыянальным інтарэсам, згадваюцца Барыс Сачанка, Мікола Прашковіч, Мікола Алексютовіч, Васіль Быкаў, Міхал Кукабака і інш.

Нягледзячы на толькі эпізадычныя наезды на Бацькаўшчыну, адрыў ад інфармацыйных крыніц апошняй, Янка Запруднік змог даць вельмі грунтоўную характарыстыку яе шматграннага жыцця ў апошнія дзесяцігоддзе. Яму аддадзена больш за палову ўсіх старонак кнігі. Чытача чакае мноства самых розных сюжэтаў: духоўныя і культурныя падставы адраджэння нацыі, Курапаты, Беларускі народны фронт, супрацьдзеянне кансерватыўных сіл, абарона мовы, вымушаная падтрымка беларусізацыі, крах камуністычнай партыі, жніўеньскі путч, беларускія грошы, узаемаадносіны з суседнімі краінамі, парламенцкія выбары і майскі рэферэндум 1995 г., перспектывы і інш. Трэба аддаць належнае аўтару за яго глыбокія веды пра ўсё тое, што апошнімі гадамі адбываецца на яго Бацькаўшчыне. Нельга не пазайздросціць яго ўменню ўсяму таму, што толькі стала здабыткам часу, надаць літаратурную форму. Па гэтых прычынах у кнізе атрымаўся вельмі праўдзівы адбітак з сучаснай беларускай гісторыі. Нядзіўна, што на тых старонках кнігі, дзе апавядаецца пра патрыятычныя, стваральныя ўчынкі апантаных нацыянальнай ідэяй адраджэнцаў, зусім адсутнічаюць высокія, дашчэнту асіміляваныя партыйныя і дзяржаўныя функцыянеры ці тыя асобы, што выступаюць супраць нацыянальнага суверэнітэту, беларускай мовы, беларускай школы. Аўтар нібыта заклікае такіх людзей спыніцца, адумацца, агледзецца вакол сябе, каб не стаць на сучасным вітку беларускай гісторыі вольнымі ці нявольнымі праваднікамі мураўёўскай палітыкі ў галіне культуры, адукацыі і мовы.

Стан гэтых асяродкаў духоўнага жыцця беларускага народа вельмі непакоіць Янку Запрудніка. Асаблівая шкода — і гэта слушна — так — бачыцца ім у праведзеным у маі 1995 г. рэферэндуме. "Прызнанне "роўнага статусу" рускай мове, — чытаем у кнізе, — адштурхнула далёка назад беларускую, якая і да рэферэндуму была не на першых ролях і ў дзяржаўных установах, і ў адукацыі". Непасрэдна з рэферэндумам звязана і рэзкае скарачэнне беларускамоўных класаў, што, аднак, ніколькі не хвалюе ні дзяржаўныя ўлады, ні кіраўніцтва Міністэрства адукацыі. Аўтар перакананы, што "пад маркай змагання з беларускім радыкал-нацыяналізмам па рэспубліцы пайшла хваля антыбеларушчыны, дэманстравання прарасійскіх настрояў, уключна з заклікамі да федэрацыі з Расіяй".

Ухвальна, што наш супляменнік на эміграцыі і ў гэтых найцяжэйшых для яго Бацькаўшчыны варунках працягвае верыць у яе перспектыву. І надзея, як і ў многіх з нас, справядліва ўскладаецца на моладзь, якая ўсё часцей "дэманструе сваё прыхільнае стаўленне да беларушчыны". На пытанне, ці ўвойдзе Беларусь у еўрапейскае супольніцтва? — даецца пазітыўны адказ, хаця шлях да гэтага ўяўляецца вельмі цяжкім. Аспрэчваць гэта, думаю, мала хто стане.

Вялікай ухвалы заслугоўвае аўтар і за праробленую працу па складанні дадаткаў да кнігі: асноўныя даты беларускай гісторыі, бібліяграфія, імянны паказальнік.

У час, калі дзяржаўныя выдавецтвы зведваюць такія велізарныя фінансавыя цяжкасці з выпускам патрэбнай беларускаму Адраджэнню друкаванай прадукцыі, прыватныя фірмы праяўляюць больш зацікаўленасці да выдання літаратуры на рускай мове, што забяспечвае ім большыя даходы, выхад кнігі Янкі Запрудніка "Беларусь на гістарычных скрыжаваннях" — гэта зусім нерадавая, калі не сказаць выдатная падзея ў нашым культурным жыцці. Хацелася б пажадаць выдавецкаму цэнтру "Бацькаўшчына" паболей выпускаць такіх цікавых і змястоўных кніг, таго, несумненна, не існавала б у нашай краіне такога страшэннага хранічнага голаду на нацыянальна-патрыятычную літаратуру, сур'ёзных праблем з выхаваннем у беларускага народа гістарычнай памяці, нацыянальнай самасвядомасці. Працаваць на гэтую высакародную ідэю гатовыя многія аўтары. Сярод іх, зразумела, і Янка Запруднік, публікацыі якога, як і ва ўсе мінулыя гады, рэгулярна з'яўляюцца ў замежным і айчынным друку.

**Леанід ЛЫЧ**

## "...ШТО СТАЛАСЯ З НАМІ"

**Пэўнай палітызаванасцю ў стасунках з мясцовымі жыхарамі вылучалася сёлетняя вандроўка тэатра "Жывое слова" (Педагагічны універсітэт) па Беласточчыне. Жываслоўцы на поўным сур'ёзе мусілі... адказваць за ўсё й пра ўсё, што дзеецца тут, у нас, у Беларусі...**

**Пра гэтую вандроўку, падтрыманую Фондам Сораса, "ЛіМ" паведаміў яшчэ ў ліпені.**

**У верасні кіраўнік тэатра Юрась Чарэнка зайшоў у рэдакцыю. Амаль што са справаздачай. І выявілася, што другою адметнасцю падарожжа сталася колькасць выступленняў. Рэкордная. Нібыта людзі моцна засумавалі па самых звычайных песнях, танцах, вершах ды ўсім тым, што складае канцэрты "Жывога слова". Натуральна, везці з сабой спектаклі не выпадала, бо і ў пляцаках для тэатральнага рыштунку месца бракавала, як і не было дзе ў вёсках гэтыя спектаклі паказваць. Бо ў "святліцах", дзе выступалі, часам — ні лавы, ні крэсла. Як заходзіш у вёску, дык шукай сярод ахайных дамкоў непрывабную хату — яна і будзе тым "клубам" са "сцэнай".**

**Вандроўка па ліку — шостая. Выключная гасціннасць польскіх беларусаў — нязводная. Праз выступленні часам вёска пусцела, на выступленні часам з'яўляліся нават панове нападпітку (але стараліся выглядаць як людзі культурныя). У вочы выступоўцам з Беларусі кідалася безумоўная развітасць, вылюднеласць гмінаў ды мястэчак, пэўная еўрапейскасць слаўнага горада Беластока, балазе, ёсць як параўнаць... Калі параўноўваць больш грунтоўна, дык "...перш-наперш па тым, што сталася з намі, — сведчыў Юрась Чарэнка. — Раней Беласточчына выглядала крыху экзатычна, раней, як абыходзілі вёску перад пачаткам канцэрта, бракавала беларускіх песень, а цяпер спяваем праз усю дарогу дый яшчэ і выбіраем. Бачым, наколькі нашае з'яўленне патрэбна тамтэйшым людзям..."**

**"Жывое слова" не мае стасункаў з БГКТ (на жаль), яму ва ўсім дапамагае вядомы Янка Мордань. Ягоныя тэатры, "Балаган" ды "Парнас" на сёння ўжо не існуюць, хоць балаганаўцы і хадзілі з жываслоўцамі, і музыкавалі разам... Разам збіралі грошы ў скарбонку — для Гайнаўскага музея, як, дарэчы, рабілі штогод. Можа, настуным разам пашанцуе трапіць у самую Гайнаўку ды падзівіцца з гэтага самага музея. Зычым будучым педагогам і такога шчасця. А сёння, як сведчыць Юрась Чарэнка, гэтыя вандроўкі, выступленні ды стасункі больш за ўсё "патрэбны нам самім".**

**Ж. Л.**

## ВЯЛІКІ СЕЗОН МАЛОГА ТЭАТРА?

**Былы Альтэрнатыўны, а цяпер — Малы тэатр адкрывае свой першы (чарговы?) сезон 3 кастрычніка ў вялікай зале Палаца культуры Белсаўпрофа. Адкрывае найвядомай ды найпапулярнай "Камедыяй..." У. Рудава паводле В. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча. Падтрымаць добры гумар гледачам выпадзе таксама 11 кастрычніка — але ўжо ў Доме афіцэраў — Малы тэатр вымушаны мяняць пляцоўкі, балазе, "Камедыя..." у свой час задумвалася з невялікай стылізацыяй пад пляцавы тэатр. Так што насіць рэйкі й прасцірадлы афармлення хіба што клопатна. Блага, што пад кожную з пляцовак трэба мяняць мізансцэны, выхады і да т.п., — гэтая акалічнасць можа якраз і адбіцца на якасці спектакля. А ягоны соты паказ, калі памятаеце, ужо адсвяткавалі... Так што... наколькі вялікім зробіцца сезон для тэатра? Наколькі выстачыць моцы ягоных творцаў?..**

*На здымку: да выхаду рыхтуюцца Ігар Забара (Чорт) і Яўген Жураўкін (Давідка).*

*Фота Віт. АМІНАВА*

Тэлебачанне

# І ГЭТА МЫ МУСІМ ПРАЙСЦІ

***Аўтарам і вядучым перадачы "Гэта мы не праходзілі" Уладзімірам МАЦКЕВІЧАМ (метадолаг, палітык, дарэчы, чалец нацыянальнага камітэта Аб'яднанай грамадзянскай партыі ды чыннік "Агенцтва гуманітарных тэхналогій") проста не мог не зрабіцца. Яшчэ калі праектаваў ды дапамагаў распачынаць "Праспект" Паўла Шарамета, яшчэ калі Леанід Міндлін выпускаў у эфір свой "Пасьянс", Уладзімір Мацкевіч запісваў для іх каментары або цэлыя сюжэты. Летась выпадкова натрапіў на... падманутых укладчыкаў, якіх апытвалі для перадачы "Тэледэбаты" (яна ў эфір не трапіла). Мусіў быць экспертам. Тамсама, на запісе, пазнаёміўся з Галінай Аржылоўскай і Наталляй Цімафеевай, рэжысёрам ды рэдактарам, — ўсе ўтрох міжволі ўзялі пад увагу выснову аднаго з "тэледэбатчыкаў", выснову-ўздых: маўляў, каб ведалі, што такое можа надарыцца з намі ў нашай краіне, дык узважвалі б свае магчымасці... А такое сапраўды можа надарыцца цяпер з кожным, — законы эканомікі на кожным кроку ўмешваюцца ў наша асабістае жыццё. Ад умяшання не ратуе веданне гэтых законаў, але яно, прынамсі, можа хоць саломкі падаслаць. Каб толькі знаць, дзе ўпадзеш...***

***Перадача "Гэта мы не праходзілі", такім чынам, ужо са снежня леташняга года аж да дзён сённяшніх, так бы мовячы, шукае коўзкіх месцаў, але замест подсцілу саломкі, чытайце, пэўных высноў, рэцэптаў або кіраўніцтва, штурхае гледачоў да самастойных дзеянняў ды рашэнняў. "Мы не хочам, каб нашы гледачы думалі гэтаксама, як і мы. Мы хочам, каб яны думалі", — сказаў як звязаў Мацкевіч.***

— Што да майго асабістага ўдзелу ў перадачы, — удакладняе ён, як аўтар ды вядучы, — што да майго пастаяннага з'яўлення на экране, дык гэта — адказ на выклік. Тых маіх калег, асабліва абцяжараных рознага кшталту званнямі, якія ўвесь час паўтараюць, маўляў, эканоміка — гэта дужа складана, што з народам пра яе размаўляць яшчэ больш складана... Спачатку я злаваў. Найскладана размаўляць не з народам, а якраз з калегамі. А потым вынікнула магчымасць паразмаўляць і з народам — праз перадачу. І я давёў, што да народа не трэба "сыходзіць": народ усё цудоўна разумее, асабліва паспытаўшы ўжо сяго-таго. Дарэчы, наш народ не горшы за іншых... У нас палітыкі ды эканамісты адстаюць ад народа, з якім не трэба няньчыцца або вадзіцца, як з дзіцем, ці недарэкам. Тое, што яму трэба, наш народ цудоўна кеміць, — а думаць "у памерах дзяржавы" яму абсалютна не трэба. Так думацьмуць ды кеміцьмуць палітыкі. Калі ж палітыкі хочуць адпавядаць узроўню народных уяўленняў (пра што б там ні было), дык атрымліваецца менавіта тое, што сёння мы і бачым, і адчуваем у сваёй дзяржаве.

...Мяне, гэтаксама, пэўна, як і вас, не дужа хвалюе, куды знікаюць грошы. Хвалюе хіба іншае — чаму знікаюць яны так хутка, чаму іх так бракуе. Я не люблю эканоміку. Калі прыехаў у Мінск колькі гадоў таму, дык убачыў жахлівае відовішча: убоства грамадскага жыцця, наўпрост звязанае з убоствам таго, што прад'яўляецца ў якасці інфармацыі для масавага ўжытку. Вырашыў — вось вартая галіна, каб прыкласці свае сілы. Стаў пісаць ды друкаваць аналітычныя матэрыялы. Пры гэтым ставіў сабе задачу: усё падаваць праз схему "экрана масавай свядомасці" (як унутраным позіркам індывідуальная свядомасць бачыць рэчы, так і масавая — яна, натуральна, не змяшчаецца ў адной галаве, але выяўляецца на экране тэле, кіно, у тэатры, у чутках, у плётках, у газетах і да т.п.). На гэтым "экране" можна пісаць зусім не тое, што прапануе бальшыня беларускіх сродкаў масавай інфармацыі. Натуральна, і тэлебачанне — як адзін з самых масавых сродкаў. Знакі на гэтым і на тым экране павінны быць правільна расстаўлены, іх мусяць разумець усе. Самы універсальны знак — грошы. Самая агульная мова, якая карыстаецца гэтымі знакамі, — эканоміка. Таму знакавая сістэма эканомікі і сама эканоміка зрабіліся аб'ектам нашых адукацыйна-асветніцкіх намаганняў у перадачы "Гэта мы не праходзілі". Ну, а што ля экрана можа адразу ўсхваляваць чалавека? Зарплата. Жалаванне. Цэны. Падаткі. Паслугі. Або чаму тое, што было бясплатным, зрабілася платным. Ды яшчэ такім дарагім. Першыя перадачы былі пра зарплату на гасразліковым прадпрыемстве, дзе вырабіў нейкі кошт і атрымаў частку гэтага кошту ў выглядзе зарплаты. Потым — пра тое, што называецца зарплатай, але на самай справе — жалаванне (у бюджэтнікаў). Для іх працуюць такія.... фікцыі, як мінімальная зарплата, спажывецкі кош. Перадачу задумвалі, як спалучэнне жанраў: ток-шоу (з удзелам герояў, размовамі, тлумачэннямі) ды мыльнае оперы (каб нашы героі пераходзілі ад тэмы да тэмы, ад сітуацыі да сітуацыі і намагаліся ахапіць тое, што іх хвалюе). Скажам, наш пенсіянер удзельнічаў у абмеркаванні зарплаты, хоць сам яе не атрымлівае, або людзі, якія ніколі не ашчаджалі грошы ў банку, абмяркоўваюць ашчаджэнні. Беспрацоўныя, школьнікі, студэнты... Высветлілася, што нашы агульнанародныя ўяўленні пра эканоміку — прымітыўныя. І калі герой намагаўся асвойтацца на экране з чымсьці, што пераходзіла межы аднае-дзвюх тэм, рабілася сумна. Меркавалі рабіць па пяць перадач на адну тэму, а яна, тэма, вычэрпвалася за адзін-два разы. Так з'явілася патрэба расправесці пра іншыя эканамічныя катэгорыі. Скажам, прадпрымальніцтва, бо прадпрымальнікі зваліліся як снег на галаву. Іх блытаюць з камерсантамі, з бізнесоўцамі, але ў сучаснай эканоміцы прадпрымальнік — асаблівая фігура, абцяжараная асаблівымі сэнсамі. Мы запрасілі да ўдзелу ў перадачы людзей, якія толькі думаюць, як бы і што б ім прадпрыняць. Пры гэтым у галіне, вельмі далёкай ад камерцыі — у адукацыі. А менавіта — праект выдання адукацыйна-метадычных комплексаў, якія вымагаюць вялікіх крэдытаў і г. д. Прадпрымальнікі абмяркоўваюць свае праблемы, а мы тым часам тлумачым усё гледачам на экране, схемы даём. Трэба, нарэшце, расцягнуць дурную сінанімію, калі бізнесоўца блытаюць з камерсантам, камерсанта — з прадпрымальнікам... Сінанімія ўсё валіць да кучы. Знайсці ў кучы зярняты здаровага розуму — адукацыйны сэнс перадачы. Паколькі гаворка шмат у якіх выпусках ішла пра банкі, мы зрабілі некалькі перадач пра банкі. Але банкі пакрысе пераходзяць на сучасныя тэхналогіі — зрабілі перадачу пра пластыкавыя грошы. Наступнымі сталі балючыя пытанні адукацыі, аховы здароўя, жылля: былі дзяржаўнымі, бясплатнымі, агульнадаступнымі, а зрабіліся... Апошнія перадачы якраз менш тлумачылі, чаму так сталася. Але найбольш адпавядалі глядацкім чаканням. (А колькі пасля званілі ды пісалі! Глядач, супрацоўнік МПА "Буракі" меркаваў, што раз Мацкевіч так трапна ўсіх вучыць жыць з экрана, дык у яго кватэра, сама менш, абклееная доларавымі купюрамі). Відавочна: асабістыя праблемы чалавека — гэта праблемы ўсяе краіны. Тое, пра што вядзецца гаворка ў цыкле, проста. Нават прымітыўна. Але вось праблема: не, не ў тым, што людзі чагосьці не разумеюць. А ў тым, што яны і трох хвілін **не хочуць** часам падумаць над прапанаванай тэмай. Высветлілася, што наша пераважная бальшыня аддае перавагу гатовым меркаванням, парадам, рэцэптам, указанням. Што рабіць у такой сітуацыі? Адны рэцэпты памяняць на іншыя? Радыкалізм метадалогіі якраз у тым, што яна **можа прымусіць** чалавека падумаць або задумацца самому над нейкай праблемай. І ён прыйдзе да высновы, да выбару. І да выбару слушнага. Бо, разумееце, законы логікі ды здаровага розуму для людзей аднае культуры — аднолькавыя. Калі вы нешта разумееце, а я пра гэта ніколі не думаў, ваша думка можа здацца мне жахлівай, дзікунскай, але калі я добра падумаю, дык, хутчэй за ўсё, мецьму выснову, падобную да вашай, хіба з інакшым эмацыйным стаўленнем. Таму калі нам тэлефанавалі ды абураліся, маўляў, як так, чаму не кажам, куды трэба (!) несці грошы, мы таксама былі задаволены: значыць, пачалі або пачынаюць думаць. Праўда, знаходзіліся адмыслоўцы: яны адразу падтрымалі нашу "безвысноўную" манеру падаваць матэрыял...

У сучаснай Беларусі, на жаль, няшмат хто пэўна ўяўляе сабе, што робіцца наўкола. Яшчэ ў 1992—93, калі я працаваў у Маскве, мы з Пятром Шчадравіцкім апісалі тое, што адбываецца ў былым СССР праз мадэль сістэмнага крызісу. Мадэль складае пяць галін: трэба прайсці праз пяць вяршыняў, пяць пікаў крызісу, каб *толькі дэмантаваць* тую сістэму, якая існавала больш за семдзесят гадоў. Яе дэмантаж пачынаўся з крызісу ідэалогіі, калі ідэалагічныя каштоўнасці ды формулы проста спынілі свой уплыў на людзей. У Маскве пік ідэалагічнага крызісу — жнівень 1991 года. Так ці інакш ён вырашыўся ды мусіў меншаць; ад савецкасці, ад фантому камунізму Расія, Прыбалтыка, Украіна, Грузія адмовіліся. Вядома, ідэалагічныя спрэчкі працягваюцца, але надзённасці набывае другі складнік сістэмнага крызісу, які да наспявання крызісу ідэалогіі не так кідаўся ў вочы: крызіс улады. Не сацыялізм, не камунізм будуем, рынкавыя дачыненні ўзнікаюць, а каму належыць улада? Вырашэнне крызісу ўлады адцягнулася, у Расіі, прынамсі, яшчэ на паўтара года (1992, разбіранне з Гайдарам і г.д.). Нарэшце да ўлады дайшлі рыначнікі, — ужо без яўнага ідэалагізавання. Калі крызіс улады больш-менш вырашаны, рубам становіцца наступнае пытанне: як, пры якім дзяржаўным ладзе ўсё прыдуманае ажыццяўляць? Крызіс улады дасягнуў свайго піку падчас расстрэлу расійскага парламента ў кастрычніку 1993. Калі зрабілася відавочным, што сістэма савецкае ўлады аджыла сваё і няздатная задаволіць тых, хто атрымаў уладу ды ўвасабляе новыя ідэалагічныя вартасці. Савецкая ўлада зліквідавана канчаткова, дзяржаўная машына пераструктуравана. І толькі тады, калі крызіс дзяржаўнага кіравання мінае свой пік, калі пабудавана новая дзяржаўная машына, можна пачынаць працаваць з гаспадаркай. З эканомікай. Толькі тады на першы план выходзіць крызіс эканомікі (гаспадаркі). Да гэтага гаспадарка разбураецца, эканоміка занепадае, паказчыкі змяншаюцца, але **ніяк пэўна** гэта выправіць няможна. Няможна запусціць заводы, не вырашыўшы, для якіх людзей ды ў якой краіне яны працавацьмуць. Раскіданне эканомікі будзе зацягвацца, бо перш як пачынаць аднаўленне, трэба перажыць усё, што яму папярэднічае. І толькі **пасля** вырашэння крызісу гаспадаркі (эканомікі) надыходзіць крызіс ладу жыцця. Момант, час, часіна, калі мяняецца жыццё кожнага асобнага чалавека я больш не ўтрыманец, я мушу зарабляць, я мушу рупіцца, каб заробкі не зжэрла інфляцыя і г.д. Людзі пачынаюць жыць у свеце платных рэчаў і адпаведна зарабляць, каб іх аплаціць!

Вось гэтую мадэль мы ўвялі ў першай перадачы жнівеньскага цыкла. Гэтая — новая — мадэль дыктуе логіку новых перадач. Распавялі пра ідэалогію, пра ўладу, адзняты матэрыял пра крызіс дзяржаўнага кіравання, пасля ўпрыцён набліжаемся да крызісу гаспадаркі, а крызіс ладу жыцця нават не вымагае вялікай гаворкі, бо нашы героі ўсе папярэднія крызісы зазналі сваёй скурай... І — мусяць яшчэ... Бо нават крызісу ідэалогіі ва ўсёй ягонай жорсткасці Беларусь яшчэ не перажыла. Таму і перадача наша... ніякай спецыяльнай перспектывы не мае. Аўтарская група або мусіць рыхтавацца да перадачы іншага кшталту, або да шчаслівага скантання перадачы старой. Дарэчы, ідэя іншай перадачы ўжо ёсць. Як і перакананне, што не аднаму Мацкевічу падобнымі перадачамі на тэлебачанні займацца: процьма журналістаў, — зусім не дурных, хоць і зусім не абазнаных, мусіла была б паціху перахопліваць ініцыятыву...

**Уладзіміра МАЦКЕВІЧА**
**натавала Жана ЛАШКЕВІЧ**

# ДЗЕЛЯ ПОШУКАЎ СУТНАСЦІ

За савецкаю часінаю прыйшоў паэт да вядомага паэта з вершам:

**Муха выползла на снег.**
**Муха думала: "Весна..."**
**Но ошиблась. И свой век**
**В муках кончила она.**
**Суть события ясна:**
**Муха — низший интеллект.**
**Но ведь я-то человек,**
**А ведь думал, как она...**

Вядомы паэт падумаў і мовіў, што такога яны друкаваць не возьмуць: яно зневажае гонар і годнасць савецкага чалавека. На што паэт толькі і меўся зважаць, маўляў, а муха чыя, таксама ж — савецкая... Пасля гэтага хаджэння, першага і апошняга, паэт ужо ні пра што нікога не прасіў. Пастанавіў, што будзе рабіць сам — тое, што падабаецца...

Знайшліся, аднак, прычыны, па якіх яму не выпадала доўга ды плённа рабіць — ужо як крытыку-аглядальніку — у газеце "Знамя юности". То мусіў выдаваць часопіс "Поп-музыка" ды газету "Сорока"; меламаны хораша запомнілі яе прылёты ды адлятанні... Не, не ў вырай, такія птушкі туды не лятаюць. У новую якасць. Бо ў новую якасць перайшлі музычныя захапленні крытыка і аглядальніка. Давялі да занятак шоу-бізнесам. Нават да яго, шоу-бізнеса, абеларушчвання — не толькі паводле тэрытарыяльнае прыналежнасці.

Крыху спагадзя — асобныя зборнікамі — пайшлі вершы. З ягонай лёгкай рукі, — не, не ягоныя, а тых паэтаў, якія не друкавалі разам з ім. Пафас рэцэнзіі ў сур'ёзным дзяржаўным выданні сатыры і гумару быў своеадметны: хто дазволіў недзяржаўнаму выдавецтву... выдаваць такія вершы?! На музычныя выданні, помніцца, скардзіліся яшчэ ў ЦК партыі. Вядомы тав. Катляроў бэсціў выдаўца і прадзюсера ў адной асобе праз "Политический собеседник". За тое, што ён, як паэт, рэдактар, арганізатар і г. д., займаецца... чым хоча! На "трэба" і зважаць не хоча!..

Паэт, рэдактар, крытык, выдавец, прадзюсер Юрый Цыбін абскарджаны й сёння, бо — не зважае. Да сёння. Перажывае адметнае змаганне за сваё права рабіць сваё. "Быць самім сабой, усміхацца і нічога не баяцца. І тады са мной не столькі рахуюцца, колькі лічацца", — прыгаворвае ён...

## "БЫЦЬ САМІМ САБОЙ"

### (ЗАПАВЕТ ПЕРШЫ)

— А калі я скажу, — мякка ды няўмольна цягне Цыбін, — што ў гэтым дзесяцігоддзі на Беларусь прыпадаюць тры паэты — Глобус, Сыс і я? (Хоць, скажам, без Караткевіча, Разанава, Дранько-Майсюка нас уявіць цяжка). У нашай, асаблівай, адасобленай, рок-н-рольнай генерацыі нас — напраўду трое. Але для краіны, мабыць, дастаткова трох... У мяне пэўнае адчуванне рытму сваіх вершаў, не думаў, што іх можна спяваць. Дзіўна: жыву ў рок-н-роле, а на мае вершы пішуць песні эстрадныя. Як Алег Елісеенкаў, такі самы авантурны, як і я... (Яны з Саладухам зрабілі мне нядаўна спеўны сюрпрыз). Аднойчы звоніць Анатоль Вечар — як чыннік журы конкурсу аўтарскай песні — і кажа, што першае месца далі песні пра бамжа Валодзю з вельмі нетрадыцыйнымі вершамі, а ўдзячны спявак-пераможца назваў іх аўтара: Юрый Цыбін. Таму ўражаны Вечар ўзяўся... мяне віншаваць. Хоць я да сёння ўпэўнены: на такія вершы ну ніяк не можна музыку пісаць. Цікава было б спаткацца з аўтарам...

**— Юрый, рэдакцыя твайго чарговага дзецішча — часопіса "Каўчэг", чый першы нумар мы ўжо пільнаваць схакаліся, займаецца аднаўленнем гісторыі беларускага рока, запісамі, напрыклад, джазу або прадзюсаваннем фільмаў. Гэта — доўгатэрміновая праграма?**

— Што да музыкі, дык гэта яшчэ з часоў "Знамени юности" мая праграма, потым як спраўджвала радыёстанцыя "Беларуская маладзёжная" падчас росквіту. Ніколі не думаў, захапляючыся беларускай музыкай, што са свайго захаплення буду... не, пакуль выдавалі толькі сваіх выканаўцаў і на абсалютна законных падставах. Стараемся з імі, выканаўцамі, разлічвацца, або аддаючы частку накладу, або — ганарарам у абумоўленых памерах. Бяромся друкаваць касеты з любога накладу, дадрукоўваем, калі бачым попыт. Я задаволены тым, што музыканты, якія звярталіся ўжо ў іншыя фірмы, маючы на ўвазе вялікія грошы, зразумелі, што лепш рабіць якасна (а якасць у нас вышэй)... Тое, што плыве з Расіі, — ва ўсіх сэнсах таннейшае. І роблена па-пірацку, а нам рупіць якасць і ганарар выканаўцам. Той, хто цікавіцца, ведае, чаму нашы касеты даражэйшыя і дзе іх можна набыць (у шапіках ТБМ, да прыкладу). Кідаць іх у агульную масу — марнаванне часу...

Мне ўвесь час карціць давесці на справе, што музыка — адзіная. Калі дзесяць гадоў таму мы працавалі з беларускімі рок-гуртамі, слухачоў не было (і ў выканаўцаў нават да сёння дажыў комплекс з пытаннем "А людзі прыйдуць?" — "А калі іх не было?" адказваю). Хто цяпер мо часцей за слухачоў наведвае нават нашы рок-каранацыі? Віктар Вуячыч, "Сябры", "Верасы", Ліка, Алег Елісеенкаў... Эстраднікі! Нібыта абсалютна супрацьлеглы року кірунак! На "Рок-каранацыях" нам увесь час удаецца заскочыць крыху наперад і нават сёе-тое вызначыць. Напрыклад, спрагназаваць развіццё беларускай рок-культуры. Калі па выніках леташняга года першай была "Крама", і пэўная частка публікі сустрэла гэту навіну проста з захапленнем (а "Сон у трамваі" Касі Камоцкай, на маю думку, да сёння — лепшы альбом у беларускім рок-н-роле). Абсалютна натуральна, што пасля выдатнага ўздыму надышоў спад. Што гурты, асабліва тыя, хто спявае па-беларуску, мусяць шукаць ды назапашваць нешта якасна новае, а гэта не здараецца хутка. Я ж зразумеў, што калі на "Рок-каранацыях" мы не вылучым перад усімі тых, хто ўвасабляе **развіццё**, дык прайграем заўтра! Таму сёлета першаю зрабілася англамоўная "Рублёвая зона", і папершапачатку гэта было зразумела толькі нам, чыннікам журы. Столькі адмоўных ды крытычных закідаў на свой адрас проста не памятаю... Але ж мы з Віталем Сямашкам не былі б сабою, калі б, пачуўшы гурт, не ўключылі б яго ў адну са сваіх прамежкавых праграм. А тым, як праўце вакаліст, захапілася нават здымачная група тэлебачання! Праграм, як вядома, было адзнята дванаццаць: па іх выніках мы і ладзілі свой рок-фэст. Дык вось, мінуў час і нашу рацыю наконт "Рублёвае зоны" багата хто з калег ды музыкантаў зразумеў. Але ж усміхацца й нічога не баяцца мне дорага каштавала...

## "УСМІХАЦЦА"

### (ЗАПАВЕТ ДРУГІ)

— "Каўчэг" — гэта не адна музыка ды яе гісторыя. Мы тут праз аднаго ў душы паэты, таму дзесяць паэтычных зборнікаў ужо выдалі. Дзевяць з іх — першыя ў тых, хто ні ў якім іншым месцы выдавацца не мог. Тацццяна Сапач або Алена Казанцава, якую Яўген Еўтушэнка назваў "самым абаяльным талентам" у "Строфах века"; што не прыбыткі мець, але ўжо — акупляць свае выдаткі на захапленне. Мінула гадоў дзесяць і высветлілася, што матэрыялы, якія цяпер "Каўчэг" перавыдае — патрэбныя і карысныя. Цікавасць да культуры, нават да такога спецыфічнага яе кірунку, як беларуская рок-музыка, — відавочная. Нават у таго пакалення, якое гэтай (архіўнай ужо!) музыкі не чула. Напрыканцы жніўня з'явіўся каталог на пяцьдзесят касет зробленых толькі з нашымі выканаўцамі. Распачалі серыю "Залаты фонд беларуската рок-н-ролу". Мяне гэта вельмі ўсцешвае. Таму і перавыдаём касеты без сумніву. Мы не разлічваем на вялікія прыбыткі: перадусім ды вызначальна ў нас — іншая палітыка. Я не пакінуў думкі, што чалавек мусіць займацца тым, чым хоча; шчасце, калі на спраўджанне жаданні яму выпадае і матэрыяльны прыбытак. Мы ніколі не займаліся пірацтвам, заўжды "Скрыжаванні" Адама Глобуса польская крытыка вызначыла "лепшай кнігай беларускай паэзіі дзесяцігоддзя"; за вершы Дзімы Строцава мы мелі суровую крытыку дзяржаўных выданняў. Выдалі зборнік тэкстаў беларускага рок-н-ролу: ён і цікавасць выклікаў, і вельмі няблага разыходзіцца. "Памяць пра крылы" — паэтычны зборнік супольна з беларускім таварыствам інвалідаў, або Барыса Вайханскага сумесна з "Мастацкай літаратурай". Фелікса Аксёнцава, які цяпер жыве ў Канадзе. З Канады даслаў рукапіс Марк Мерман, — мяркуем выдаць другую ягоную кніжку... Мы не толькі мяркуем працягваць кнігавыданне, але і пакрысе збіраем свой часопіс "Каўчэг", прысвечаны праблемам культуры. Аднак стала пашырым рэдакцыю толькі пасля таго, як першы нумар вызначыць патрэбу ў выданні ды ўбачым, на якім узроўні здолеем існаваць.



**— Ты паводле адукацыі — журналіст?**

— Я скончыў Інстытут народнай гаспадаркі. Спецыяльнасць — планаванне прамысловасці. А яшчэ шырэй заўсміхаешся, калі даведаешся, дзе нарадзілася ідэя чарговай кнігі, — вось, дарэчы, ужо ёсць макет, мяркуй, што будзе яна не горшай у гісторыі беларускага кнігадрукавання. Цікавасць да кніг у моладзі цяпер невялікая, таму варта рабіць нешта... сінтэтычнае: кнігу і выставу мастака, які кнігу рабіў, да іх — касеты з праграмамі "Беларускай маладзёжнай" і з новымі песнямі на вершы з кнігі... Ёсць ідэя выдаць энцыклапедыю беларускай эстрады і рок-н-ролу, матэрыял ужо назапашаны. Тры гады ладзім імпрэзу "Рок на вакацыях", сёлета мяркуем зрабіць яе... як у Вудстаку: на выдатнай сцэне, з файным асвятленнем, зняць прыгожы фільм...

**— Адзін прыгожы фільм ты ўжо паспрыяў зняць як прадзюсер, — ці не там нарадзілася ідэя новай кнігі?**

— Ты пра Чарнобыльскую зону? Рацыя...

## "НІЧОГА НЕ БАЯЦЦА"

### (ЗАПАВЕТ ТРЭЦІ)

— Калі я чую пра нашых, якія дамагліся буйнога поспеху на Захадзе, прадстаўляючы фільмы, — Цыбін іранічна плюшчыць вочы, — дык найчасцей і да поспехаў, і да расповедаў стаўлюся стрымана. Для нас вялікі поспех у тым, што наш фільм "Аазіс" здолеў зацікавіць нямецкі тэлеканал ART, — канал разлічаны на пэўную аўдыторыю людзей... з думкамі. Прыемна, што "Аазіс" адкрываў Мюнхенскі фестываль і займеў станоўчыя водгукі. Хоць, па маіх адчуваннях, ён менш за ўсё разлічаны на замежнага гледача, ён абсалютна па-беларуску, па-нашаму, задуманы ды зняты. І гэта — адметна. Бо калі нават немцы з такой падкрэсленай зацікаўленасцю да яго паставіліся, дык, значыць, наша душа, наша загадка, нашае светаўспрыманне ім робіцца бліжэйшым... Уяўляю і нават напэўна ведаю, чаго б яны чакалі ад чарнобыльскага фільма: маю досвед, на чым звычайна "выязджаюць" нашы творцы, распрацоўваючы гэтую тэму, дый замежнікі, па-мойму, чакаюць менавіта гэтага...

**— Хворых дзяцей, мутантаў, выраджаў, матчыну або доктарскую роспач, немы крык пра дапамогу... У вас, у "Аазісе", не чарговае літанне беларусаў пра сваё гібенне... У вас — свята!..**

— Парадокс — ужо ў назве. І пачыналіся парадоксы з самога праекта фільма, бо не грошы папершапачатку мы на яго шукалі. А з Віталем Сямашкам яшчэ на "Беларускай маладзёжнай" ладзілі Чарнобыльскі марафон. За год да фільма мы аб'ездзілі ўсе месцы здымак. Я — упершыню, Віталь — другі раз. Абодвух скаланула тое, што адбываецца ў зоне. Тады ж і пастанавілі сабе зняць фільм **пра людзей**. Першы раз, калі ўбачыў, як дазіметр лічыць рэнтгены, хацелася... ляцець над зямлёй. І да яе не набліжацца. Але тамсама, пасярод зоны, з'яўляецца невытлумачальнае адчуванне вольнае волі — ад самага бруднага месца Беларусі! Героі нашага фільма не толькі ад бедаў ды няшчасцяў у зону ўцякаюць — яны прагнуць тамтэйшае свабоды! Мы знайшлі такіх светлых людзей у зоне, — спадзяюся, гэтаксама светла мы іх і паказалі. Памятаеш, як хлопец, які кіруе тамтэйшым запаведнікам, бярэ компас і (пасля хаджэння па мінэнергах ды мінчарнобылях, як ён сказаў) ідзе шэсць гадзін — ачышчацца... Але самая вялікая ўдача — вобраз Валодзькі Кандакова, бамжа-філосафа, які ў зоне знайшоў сваю сапраўдную волю, сваю адметную радзіму... Я калі ўбачыў яго, дык падумаў — не перавяліся героі Дастаеўскага...

**— Ты заўважыў неяк, што твой апошні ўлюбёны від мастацтва — кіно, і што гэтае кіно пачынаецца якраз не з грошай...**

— Мы, пачаўшы займацца чарнобыльскім фільмам, увогуле наконт грошай не былі ўпэўненыя. Балазе, знайшоўся рэжысёр Хашчавацкі, учэпісты ды настырны, балазе, не адступіўся Сямашка. Гэты праект мяне, скажу шчыра, цікавіў нават не як прадзюсера, а як журналіста. Але... прынцыпова не ўмешваўся ў творчыя пытанні, хоць у фільм увайшлі кавалачкі, знятыя мной і толькі мной, без рэжысёра ды сцэнарыста. Калі ж меркаваць па вялікім рахунку, мы ўсе — сааўтары нашай удачы. Нават шафёр Віця Звяровіч, — ён вазіў нас у зону з нейкай прафесійнай тэлевізійнай... радасцю, сам званіў, удакладняючы час ды абставіны выездаў. І гэта прытым, што мы колькі разоў намагаліся афіцыйна замовіць машыну — як толькі дазнаваліся, куды ехаць, адмаўлялі, не даслухаўшы. Баяцца, я іх разумею. Пасля паездак у зону я падумаў, што самы нечаканы, самы круты бізнес, які можна вынайсці на нашай трагедыі, — вазіць у зону іншаземцаў. Каб маглі выпрабаваць сябе, — лезуць жа яны на вулканы, плаваюць да акулаў... А знянца ў зоне на відэа, паказаць, як шчоўкае дазіметр... Не, наш фільм пачынаўся не з грошай. З ідэі. Маё цвёрдае перакананне: калі штосьці рабіць, толькі з грошай зыходзячы, ніякай падтрымкі не будзе. Ні ад неба, ні ад сябе. Ёсць жаданне ў мяне на тым самым матэрыяле зняць іншы фільм, але... Цяпер баюся ехаць у зону. Знікла нейкая абарона — мінуў час. Памятаеш у фільме эпізод, дзе мы абедаем у старавераў? Усе прадукты, ад грыбоў да малака (а не паесці — пакрыўдзяцца) — тамтэйшыя, мясцовыя. Першы раз селі абедаць — кураж, во я які, сяджу ў зоне, ем грыбы, самагонам запіваю... Потым усё зрабілася падобным да тэатра абсурду. Сядзіш, удаеш з сябе героя, дазіметр стараецца, набівае, нашчоўквае у 20-30 разоў больш за норму... Скончылі здымкі. Не дзеля грошай, не дзеля славы, а дзеля пошукаў сутнасці, дзеля разумення ўзяліся мы здымаць. Разумення ўсяго, што адбываецца ў нашым жыцці з намі. Фільм трымаў мяне ўвесь леташні год, — вельмі цяжкі год. Не ведаю, як бы перажыў яго, калі б не "Аазіс"...

**— А чаму песня пра бамжа Валодзю не прагучала ў фільме, чым героем стаўся бомж Валодзька?**

— Пасаромеўся прапанаваць яе рэжысёру. Дый наш бомж сам піша — песні, вершы. Таму і з'явілася ідэя працягу: ён мне — свае вершы, я яму — свае...

**Гутарыла з Юрыем ЦЫБІНЫМ**
**Жана ЛАШКЕВІЧ**

Фота Уладзіміра ШЛАПАКА

## АЛЯКСЕЮ МАЙСЕЙЧЫКУ — 60

**Нарадзіўся Аляксей Антонавіч 4 кастрычніка 1936 года ў вёсцы Гошчава цяперашняга Івацэвіцкага раёна. Бацька, удзельнік вайны, у 1947 годзе памёр, таму маці давялося адной выхоўваць дзяцей. У 1955 годзе А. Майсейчык паступіў на філалагічны факультэт Брэсцкага педагагічнага інстытута, пасля заканчэння якога ў 1960—1962 гадах выкладаў у роднай вёсцы беларускую мову і літаратуру, а з 1962 года быў завучам па вытворчым навучанні і адначасова выкладаў рускую мову і літаратуру ў Няхачаўскай васьмігодцы рабочай моладзі. У 1962—1966 гадах вучыўся ў аспірантуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі, абараніў кандыдацкую дысертацыю. Працуе ў Брэсце, з 1975 па 1980 гады быў дэканам факультэта ў мясцовым педагагічным інстытуце.**

**Упершыню А. Майсейчык надрукаваўся ў 1961 годзе ў Івацэвіцкай раённай газеце "Святло камунізму", а з 1962 года выступае ў рэспубліканскай перыёдыцы з рэцэнзіямі, крытычнымі і літаратуразнаўчымі артыкуламі. Выдаў "Практыкум па ўводзінах у літаратуразнаўства"; ён адзін з аўтараў дапаможніка для студэнтаў філалагічных факультэтаў педінстытутаў "Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. 1941—1980", "Методыкі выкладання беларускай літаратуры", падручніка для 6 класа "Родная літаратура"...**

**З 60-годдзем, шаноўны Аляксей Антонавіч! Далейшых Вам поспехаў у жыцці і творчасці!**

## "ВЕЧНАЗЯЛЁНАЕ ДРЭВА РАМЁСТВАЎ"



**У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адбыўся рэспубліканскі семінар па праблемах народнай творчасці, стварэння традыцый і развіцця рамёстваў. Семінар праходзіў на базе рэспубліканскай выставы "Вечназялёнае дрэва рамёстваў", якая экспануецца ў нацыянальным музеі. У рабоце семінара ўдзельнічалі кіраўнікі Міністэрства культуры і Саюза майстроў народнай творчасці Беларусі.**

*На здымку: старшыня Саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута знаёміць удзельнікаў семінара з выставай.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

## "ЛУТАВА"



**Загадчыца бібліятэкі ў Старой Лутаве Лоеўскага раёна Тамара Сяргееўна Шапавал (на здымку ў цэнтры) з даўніх часоў захапляецца песнямі. Невыпадкова створаны ёю калектыў мастацкай самадзейнасці "Лутава" — неаднаразовы ўдзельнік рэспубліканскіх конкурсаў — з'яўляецца строгім захавальнікам народнага фальклору. У яго рэпертуары больш за сотню песень, сабраных сярод мясцовага насельніцтва.**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

Спадчына

# З КНІГІ "ЗІМОВАЕ СОНЦА"

***У паэткі Яўгеніі Пфляўмбаўм засталося багата вершаў, якія не ўвайшлі ў кнігі "Сувой жыцця" і "На заходзе сонца". Архіў за 60 год пісання і недрукавання сабраўся значны і неспарадкаваны. Зараз разборкай займаюцца работнікі бібліятэкі АН Я.М.Кісялёва і М.М.Ліс.***

***Увазе чытача прапануюцца рэчы, што, паводле задумы аўтара, павінны былі скласці новую кнігу "Зімовае сонца".***

**Максім ЛУЖАНІН**



Яўгенія ПФЛЯЎМБАЎМ

●

Не буду зноў смуціць радок
Ні скаргаю, ні нараканнем,
Хай пашыраецца лядок
У сэрцы, што жыве ў выгнанні.

Яго з радзімы пачуцця
За свет пагналі днём лядзяным
І ўсіх шляхоў яго прасцяг
Быў дробным і буйным падманам.

Хай так. Сыходзяцца канцы,
І вецер набірае сілы,
Хвастаў ён моцна растанцы,
Пакуль аселі хмары пылу.

*1956*

### СУСЕДУ НА ВЫШЭЙШЫМ ПАВЕРСЕ

Па сэрцу стукацяць падковы,
А тут — уся душа ў агні...
Паэт ці конь? — скажыце, хто вы, —
Ці пад канём, ці на кані?

*27.VIII.1965*

●

Фальшывая патэтыка,
З паверхні дробных душ
Ты сыплешся касметыкай
Пад выхваляння туш.

Чаму ж скупеюць воплескі —
Штодня цішэй, цішэй,
Нібы хто ходзіць поплескай
Па залі, між плячэй.

*28.VIII.65*

### КАЛІ ЖОЎКНЕ Ў ЛЕСЕ ГЛІЦА

Адзінота, адзінота...
Несуладжаная нота
У пустэчы і ў начы
Гук праб'ецца... Закрычыш
Ды ізноў сарвецца голас —
Гола...
Наваколле маё спіць.

І хвіліна па хвіліне
Ноч сыходзіць, вокны сініць,
Можа, й ты хіба паспі, —
Пакуль дождж не стаў крапіць.

Але сэрца папяліцца
На распале гэтых дзён,
Калі жоўкне ў лесе гліца
І ўжо золак не відзён.

Яго межы на ўзбярэжжы
Той ракі,
Што заснежыць белы снежань
На вякі.

*1969*

### СТАРАСЦЬ

Скольны адломак над прорваю:
Колькі стрывае рука?
Сонца спагадаю зморвае,
З літасці кліча Ікар.

Крылы памлелыя згорнуты,
Вецер раптоўна шумне:
Ні апраўдання, ні гонару
Не застанецца ў мяне.

Месяц з усмешкаю схіліцца:
Больш за паўвека стаю,
Дбаю пра крок твой без мыліцы —
Больш не на сілу маю.

*1969*

### Я ГАТОВА

Я гатова з дарогі сысці —
Пашырайце прасцягі рахубы,
Хіжы вобраз іграй, травесці,
Як пазначацца мудрасці зубы.

Ды якая ж цяжкая вясна:
Дзе-нідзе у палях зарунела,
Ды маўчыць пры сядзібе сасна
І бяроза пад ветрам азглела.

Я гатова з дарогі сысці,
Абы недзе малое прыстанне.
Адпусці мяне, боль, адпусці
У астатні спакой адвітання.

Стома легма ляжыць каля ног,
Нібы ўсе ўжо прачуты праклёны,
Адпусці ты мяне за парог
На пагоркі мае і адхоны.

Ці яшчэ высіляцца душой,
Кожны згук сфальшаваны
аслухваць,
Калі шлях да ніцінкі сышоў,
Толькі сэрца жывое з прысухі.

Не даю яму веры здаўна,
Адкаснуцца не ўмее драбноты,
Абы дзе пасміхнецца мана,
А яно ўжо гатова да згоды.

Прагны век, неўтаймоўнасць тугі,
Нейкі схвапны заносісты вецер.
Пасплягаліся лёсу кругі,
Як у зарасцях тонкае вецце.

Ні пачатку няма, ні канца.
Дзе жыццё маё тоіцца зараз?
Яму золак зашмат абяцаў,
Ды не спраўдзіў, паблытаўшы твары.

*1969*

### ПЕРАД НОВЫМ ГОДАМ

Яшчэ да фінішу віток,
—І скончыцца ліхі гадок,
Уладу возьме новы,
Не сівы — чорнабровы.

Мы апеліруем к табе
У навагодняй варажбе:
Не будзь на ўцеху скнары,
Дык разам піва зварым,
І ты дасі нам перадых
Ад мітусні ды ад бяды
І ад слаты найболей —
Ад заўжды шэрай столі...

Хай засінее небасхіл
Ды зоркай зазіхціцца,
Хай будзе скрозь закон сухі,
А нам дазволь упіцца,
Упіцца спевам аб вясне
Угрэцца цёплай згадкай
Зачэрпаць белы пульхны снег
Рукою без пальчаткі.

*1969*

### ЦЯГНІК ЛЕНІНГРАД—МІНСК

Марудны цягнік запавольвае лёс,
А можа, прыпыніць, запыніць, адцягне...
Пад здаўна аслуханы туркат калёс
Жыццё не захоча здавацца суцягам.

Разгладзіць нязвычную строму чала,
Хай хмары спаўзуць з нестарога аблічча:
"Усцешу іх сэрцы — была не была —
Калісь у актыў мне хоць гэта залічаць".

Нячутны прысутным такі маналог
Гучаў на паўстанку, гучыць і ў пралётах?
Жыццё! Твая шчодрасць нам трэба на двох,
З табою мы злічымся некалі, потым.

А зараз бліжэй і выразней смуга, —
За ёй пачынаецца дом, разумееш?
Якая ў тым слове туга і вага,
Як тысячагоддзі там хораша днее.

*1970*

●

Падбіўся вецер у дарозе,
Скрывавіў пальцы на нагах,
Яшчэ ты цягнешся ў абозе,
Мая самота і туга.

А я ўжо дзесь, пад хіжы клёкат
Раблю прыпын у гушчары:
Не блізка мне і не далёка,
Але не ціха на двары.

Вось запыніўся і радок,
Якому скардзішся на вуха.
Яшчэ гадок,
Яшчэ гадок
І замяце мяне віюха.

*27.VII.95*

### ПЕРАД АДЫХОДАМ

Я сягоння спала
Вершаў не пісала, —
Многа іх зляжылася у снах.
Чула: дожджык з высі
Сеяў дробны высеў,
Мусіць, набліжаецца вясна.

І акно святлела
Кветкай снежнабелай,
Можа, яна марыць аб вадзе.
Уставайце, людзі!
Усё роўна ўзбудзіць,
Ён са мной прачнуўся, новы дзень.

*10.1.96*

**Публікацыя Максіма ЛУЖАНІНА**

# ШТО П'ЁМ, СПАДАРОВЕ?

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

павышэння нашай экалагічнай адукацыі на базе навуковых ведаў і дакладнай, разумнай арганізацыі справы. Без гэтага не дапамогуць ніякія сродкі, нават калі яны і будуць у нас нарэшце. Час, даўно час усвядоміць, што вада — гэта ўсё, гэта аснова асноў жыцця. І калі мы хочам быць здаровымі і доўга жыць на гэтай зямлі, трэба нам у што б там ні стала навучыцца ставіцца да вады беражліва...

**— Будзе нявветліва, Герард Апанасавіч, калі я хоць на завяршэнне гутаркі не папрашу вас хоць коратка расказаць пра ваш інстытут, пра яго сённяшні стан, сённяшнія клопаты і праблемы.**

— Не так даўно наш інстытут быў галаўным у СССР па праблемах выкарыстання водных рэсурсаў. У нас была самая магутная па тым часе ЭВМ, у якую паступалі звесткі з 80 тысяч крыніц водакарыстання з усяго Саюза. Сёння, вядома, маштабы ўжо не тыя, хоць і зараз у сістэме СНД у рамках Міждзяржаўнага экалагічнага савета (МЭС) ёсць рабочая група па праблемах выкарыстання воднай гаспадаркі, у якой нашы спецыялісты бяруць самы актыўны ўдзел і, якую ўзначальвае наш дырэктар, акадэмік В. С. Усенка. Удзельнічае наш інстытут і ў распрацоўцы праграмы ўстойлівага развіцця Беларусі. Мы распрацоўвалі для гэтай праграмы тэму аховы і выкарыстання рэсурсаў прэснай вады ў нашай краіне.

А ўвогуле сітуацыя сёння — не з лёгкіх. Прынамсі, працуюць сёння толькі 40 працэнтаў супрацоўнікаў, астатнія адпраўлены ў неаплачваемы, альбо часткова аплачваемы адпачынак. Разумеем, што ўмовы змяніліся, трэба шукаць нейкія іншыя крыніцы выжывання, акрамя дзяржбюджэту, але рабіць гэта вельмі і вельмі нялёгка.

Тым не менш, мы, здаецца, не апускаем рук і па-ранейшаму працуем. Галоўную ўвагу засяроджваем на праблемах ацэнкі стану і паляпшэння воднага рэжыму, якасці вады з улікам экалагічных патрабаванняў. Нашы вучоныя і спецыялісты распрацавалі розныя тэхналогіі і сродкі аўтаматычнага маніторынгу навакольнага асяроддзя, метады ацэнкі ўплыву гаспадарчай дзейнасці на рэсурсы паверхневых і падземных вод, тэхналогіі ачысткі сцёкавых вод, узнаўлення водных экасістэм і шмат іншых праблем і пытанняў. Спадзяемся, што ўсе гэтыя распрацоўкі, ідэі і прапановы калі не сёння, дык заўтра запрацуюць на карысць нашай краіны і нашага народа. Усе мы працуем з разуменнем таго, што здаровая вада — гэта здаровыя людзі. Гэта павінны ўсвядоміць усе. Правільнае, разумнае выкарыстанне водных рэсурсаў павінна стаць дзяржаўнай палітыкай.

**— Дзякуй вам, Герард Апанасавіч, за гутарку.**

**Гутарыла Марыя ГІЛЕВІЧ**

Пошта

# ХОД ГІСТОРЫІ НЕ СПЫНІЦЬ!

На старонках вашага штотыднёвіка хачу выказаць свае меркаванні наконт моўнай сітуацыі, якую я адчуў, пабачыў у час свайго водпуску на Бацькаўшчыне.

Дальбог, не ведаю, чым кіруюцца тыя ці іншыя дзяржаўныя асобы, якія амаль поўнасцю загналі беларускую мову “в угол”. Гэта ж аксіёма: мова і народ — непадзельнае цэлае, як маці і дзіця. Вядома і тое, што калі народ страчвае сваю мову, сваю культуру, то знікае яго самабытнасць, знікае ён сам як этнас, як нацыя.

Я не гісторык мовы, але мне здаецца, што такога складанага становішча з маёй роднай мовай у гісторыі яшчэ не было. Яна не толькі ператварылася ў падчарку, але стала (не баюся сказаць гэтага слова) для некаторых “яро враждебной”.

Возьмем так званае нацыянальнае радыё. Знаходзячыся ў час водпуску дома, я не мог слухаць перадачы Беларускага радыё, бо адчуваў сябе нацыянальна ўніжаным. Добрых 50 працэнтаў перадач вядзецца на рускай мове. Заўважу, што руская мова для мяне з’яўляецца таксама роднай і яе глыбока паважаю...

Калі ж мы гаворым аб двухмоўі, гэта не азначае, што павінна панаваць толькі ва ўсіх праявах адна мова. Больш таго, рускамоўнае насельніцтва павінна ведаць мову і таго народа, дзе яно “обосновалось навсегда”. Ёсць такое паняцце, паступальны ход развіцця гісторыі. “Ущемление” беларускай мовы ўжо зараз выклікае абурэнне ў пэўнай частцы насельніцтва, і палітычныя, дзяржаўныя дзеячы павінны гэта ведаць. Нікому не патрэбна канфрантацыя. Жыццё само прабівае сабе дарогу, і задача палітыкаў заключаецца ў тым, каб правільна надаваць гэтаму патоку спрыяльныя ўмовы.

Палітыкі на тое і палітыкі, але мяне не перастае здзіўляць пазіцыя рэдактараў раённых газет. Як вядома, сельскае насельніцтва рэспублікі складаецца ў асноўным з беларусаў. З нацяжкай можна яшчэ зразумець рэдактараў рэспубліканскіх газет, якія, каб павялічыць тыраж сваіх газет і прыцягнуць рускамоўнае насельніцтва да падпіскі, сталі выпускаць газеты на дзвюх мовах. А ў раёне? Працуй на ніве свайго народа. Мая раённая газета (сам я родам са Жлобінскага раёна) да пэўнага часу выходзіла на беларускай мове, а зараз — амаль цалкам на рускай. Але ж і ў тыя часы газета карысталася павагай і яе шмат хто выпісваў. Газета ж з’яўляецца не толькі інфарматарам, але і своеасаблівай школай: чытаючы яе, падпісчык міжволі вывучае і мову. Не будзе такі чалавек гаварыць “дзярэўня”, а вёска...

Асабліва здзіўляе пазіцыя газеты “Белорусская нива”. Разлічаная на вясковага, гэта значыць, пераважна беларускамоўнага чытача, яна амаль не дае матэрыялаў на беларускай мове. Можа, лепш ёй выходзіць пад назвай “Северозападная нива”.

Так, казна Беларусі амаль пустая. Тады чым можна растлумачыць тое, што, напрыклад, у Лідзе на чыгуначным вакзале, дзе ўсе надпісы былі на беларускай мове, іх замянілі на рускія? Нехта можа сказаць, што гэта справа чыгуначнікаў: маўляў, яны заўсёды былі багатыя. Але ж, як паведамлялася, прэзідэнт Лукашэнка паабяцаў дапамогу чыгуначнікам у справе будаўніцтва новага вакзала ў Мінску, якое ідзе вельмі марудна, бо няма сродкаў. А тут, у Лідзе, грошы лішнія?

Неяк таварыш Сталін заўважыў, што ёсць чалавек — ёсць праблема, няма чалавека — няма праблемы. Калі я бачу, што творыцца з беларускай мовай, то міжволі думаеш, што дзейнічае прынцып “искореним ее до тла” і не будзе праблем. Хто ад гэтага будзе ў выйгрышы? Сусветная культура? Думаю, што не. І руская культура таксама пацерпіць. Аб гэтым прама гавораць дзеячы рускай культуры, “которые с изумлением смотрят на происходящее в области языка и культуры в Белоруссии”.

Некалькі слоў аб сімвалах Беларусі.

Як вядома, у мінулым годзе на рэферэндуме ў рэспубліцы народ выказаўся (праўда, з невялікай перавагай) “за возврат к старым символам”, быццам новыя з’явіліся “виновником” усіх іх бед. Гэта па-чалавечы зразумела: людская памяць заўсёды скіравана ў значнай ступені ў мінулае, а яно, як правіла, малюецца ў ружовым святле...

Сёлета я адпачываў у Кіславодску, пазнаёміўся там з групай узбекаў. Мне было вельмі цяжка даказаць, што сучасны сцяг Беларусі — не мусульманскі сцяг. Яны даказвалі, што беларусы глядзяць значна далей наперад, чым іншыя еўрапейскія народы, бо прыйдзе час і мусульмане... мірным шляхам заваююць еўрапейскія краіны.

Мне заўсёды робіцца сумна, калі бачу, што беларусы зусім не ведаюць сваёй гісторыі. Але ж яны ведаюць, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны існавала так званая “Руская вызваленчая армія”, на чале якой стаяў былы савецкі генерал Уласаў. І калі шчыра гаварыць, дык уласаўцы не ідуць ні ў якое параўнанне з беларускімі нацыяналістычнымі атрадамі,якіх амаль не ведаюць у Беларусі. Армія Уласава пакінула глыбокую баразну не толькі ў памяці рускага народа, але і іншых народаў Савецкага Саюза, што апынуліся пад акупацыяй. Мае аднавяскоўцы, якія добра памятаюць тыя суровыя гады, заўсёды падкрэсліваюць, што яны, гэта значыць уласаўцы, былі вельмі жорсткія ў адносінах да мірных жыхароў, нават больш жорсткія, чым немцы. Савецкія военачальнікі, а таксама пісьменнікі, якія пісалі пра вайну, падкрэсліваюць, што ў баявых дзеяннях уласаўцы змагаліся “отчаянно”. Але мала вядома тое, што армія Уласава ўсю сімволіку ўзяла ад Расійскай імперыі, і гэта сімволіка зараз з’яўляецца ў Расійскай Федэрацыі афіцыйнай, дзяржаўнай. Мне ў гэтым годзе ў Мінску давялося пабачыць “нямую сцэну”. На чыгуначным вакзале адзін стары чалавек, мяркуючы па ордэнскай планцы — удзельнік вайны, са здзіўленнем глядзеў на маладога рускага афіцэра, на фуражцы якога красаваўся двухгаловы арол...

Рускія людзі правільна лічаць, што ўласаўцы прыходзяць і адыходзяць, а народ неўміручы...

І мяне вельмі ўразіла выпадковая сустрэча з маладымі людзьмі ў прыгарадным цягніку “Жлобін — Гомель”. Яны мне прама сказалі, што “Пагоня” і бел-чырвона-белы сцяг — гэта іх сцяг. Як тут не ўспомніць словы Уладзіміра Леніна: “Мы партия молодых, а молодым принадлежит будущее”.

Паступальны ход гісторыі нельга спыніць, палітычным і дзяржаўным дзеячам патрэбна ўлічваць гэта і імкнуцца накіроўваць яго ў спрыяльнае рэчышча..

**Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ**

*г. Манчагорск Мурманскай вобласці*

# ЦІ ЗНОЙДЗЕМ БЕЛАРУСЬ?

Бальшыня жыхароў Беларусі цьмяна ці вульгарна ўяўляе сабе, што такое краіна і нацыя. Паводле азначэнняў савецкіх палітолагаў, галоўнай адметнай рысай дзяржавы ёсць яе суверэннасць (незалежнасць). Толькі ёй належыць права афіцыйна прадстаўляць усё грамадства краіны. Нацыя (з латыні — племя, народ) — супольнасць людзей, якая мае агульнае эканамічнае жыццё, мову, тэрыторыю і акрэсленыя рысы псіхалогіі (нацыянальны характар, самасвядомасць, інтарэсы і г.д.), што выяўляецца ў асаблівасцях культуры і быту.

Пасля захопу Беларусі Расіяй у 1772—1795 гг. старажытная назва краіны была забаронена. Народ паступова забыў сваё імя і гісторыю. Да 1906 г. выкладанне ў школе і друкаванне на беларускай мове былі забаронены. Паланізацыя краю змянілася яшчэ і русіфікацыяй. Эліта пераходзіць у большыя суседнія культуры. Першым нашым адраджэнцам здавалася, што дастаткова зрабіць народ пісьменным. Як высветлілася, толькі гэтага — мала, бо галоўнай умовай захавання і развіцця народа з’яўляецца наяўнасць нацыянальнай суверэннай дзяржавы. Працэс напамінае сепаратар. Колькасць народаў і моў незваротна скарачаецца. Выжываюць больш моцныя. Паводле этнаграфічных даследаванняў расійскай імператарскай акадэміі навук, у пачатку нашага стагоддзя беларусы жылі на значна большай тэрыторыі, чым цяпер. Мы назаўжды страцілі Смаленшчыну, Беласточчыну, Віленшчыну і іншыя краі. Беларусаў адтуль ніхто не высяляў, яны адракліся ад свайго на карысць суседняга. Бальшавікі пад націскам нацыяналаў абвясцілі ў Смаленску і затым стварылі бутафорную БССР — як плацдарм для далейшага наступу на “сусветны імперыялізм”. Заходні (Польшча) і Усходні (Расія) нашы суседзі падзялілі ўрэшце між сабою этнаграфічныя беларускія землі паводле Рыжскай дамовы (1921 г.) без удзелу прадстаўнікоў БССР. Беларуская ССР была класічнай марыянетачнай краінай.

Беларусы дагэтуль не вераць, што ў іх ёсць свая незалежная дзяржава, якая сапраўды прадстаўляе іх інтарэсы ўнутры краіны і за яе межамі. Не вераць дзяржаўнасці сваёй мовы і не аддаюць сваіх дзяцей у беларускія класы, бо навошта тлуміць “непатрэбшчынай” дзецям галаву. Больш таго, нашы грамадзяне не вераць ні ў якую дзяржаўнасць. Свае і прышлыя чыноўнікі-дачаснікі бязбожна кралі і крадуць з казны і цягнуць з народа. Ушчэнт разбурана вера ў грамадскі парадак. Гаспадар і дзяржаўны чалавек з’ехаў з нашай зямлі. Начальнікі напамінаюць часовых арандатараў, што імкнуцца выціснуць любой цаной прыбытак толькі для сябе. Няма аніякай стабільнасці. На погляд шараговых грамадзян, начальства — гэта мафія. “Мафію” ў нас лаюць усе, але ніхто не выказвае актыўнага пратэсту супраць яе нахабнага хабарніцтва і бюракратызму. Сустракаюцца, праўда, дзе-нідзе ўсплёскі эмоцый, якія хутка спускаюцца на тармазах. Працаздольнае насельніцтва практычна не ўздзейнічае на выбар. Начальнік ведае, што ён абавязкова атрымае падвышэнне. “Рабацягі” цягнулі і будуць цягнуць з вытворчасці, карыстаючыся часовасцю кіраўнікоў. З начальства за вочы кпяць, а пры непасрэдных стасунках выказваюць яму ліслівую і ўгодлівую павагу. Пэўна, ёсць падсвядомае разуменне, што на яго месцы кожны краў бы не менш.

Наступнае, у што не верыць беларус, — гэта тое, што на Радзіме можна пабудаваць сабе заможнае жыццё. Ва ўсе часы тысячы, мільёны нашых земляк оў зараблялі грошы дзе заўгодна, толькі не дома. Многія так і засталіся ў чужых краях урабляць чужую ніву. Самым “надзейным” выглядае сёння для нашых грамадзян карыстанне дачнымі і іншымі невялікімі зямельнымі надзеламі. Мізэрныя заробкі на вытворчасці і ў калгасе (а то і адсутнасць такіх), беспрацоўе і бяспраўнасць — усё кампенсуецца лецішчамі. Каб не яны, то жыхары нашай краіны “мусілі б” патрабаваць ад уладаў хлеба надзённага. Калгаснікі і пенсіянеры пераконваюць, што аніхто не захоча браць многа зямлі нават бясплатна, каб апрацоўваць яе. Можа, і маюць рацыю. Няма ніякай гарантыі, што заўтра ўробленую ўласнікам зямлю не адбяруць. З невялікім жа лецішчам не так крыўдна было б развітвацца.

Я быў выпадковым сведкам размоў незнаёмых мне людзей. Адзін мужчына-”чарнобылец” даводзіў другому, што на Берасцейшчыне і Гарадзеншчыне жывуць нейкія не такія беларусы (“адрозніваецца гаворка і характар”). У другім выпадку размаўлялі настаўнікі адной са школ пра цэны на рынку. Малады чалавек (ураджэнец Харкаўшчыны) абурыўся, што гандляроў з Валынскага і Ровенскага Палесся называюць “хахламі”-ўкраінцамі: “Якія ж то ўкраінцы, калі яны гавораць так, як у вас у Беларусі?!” У маёй вёсцы Ломуш Хойніцкага раёна заўсёды сцвярджалі, што “чыста” па-беларуску гавораць не ў нас, а ў іншых абласцях. Ездзячы ў госці, мая старэнькая матуля (скончыла ўсяго тры класы і то да вайны) нязменна чуе ўсюды па Беларусі: “Вось гэта сапраўдная беларуска! Як чыста гаворыць!”

Такім чынам, жыхары Беларусі не зусім атаясамліваюць сябе беларусамі. Але працэс ідэнтыфікацыі ідзе. Новае пакаленне расце ў зусім іншых варунках, калі знакамітая графа ў пашпарце пачала напаўняцца сэнсам. Знаходзяць разуменне нацыянальныя атрыбуты (мова, тэрыторыя, агульнасць інтарэсаў, сімволіка і г.д.). Маладыя не хочуць і не будуць працаваць за жабрачы заробак у прамысловасці ці за “палачку” ў калгасе. Ёсць надзея, што яны знойдуць дарогу да Беларусі.

**Адась КАЛЮТА**

*г. Кобрын*

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

— Урра! Карравул! — не так важна бадзёра пачаць, як жыццярадасна скончыць.

●

З плакатамі “Слава Богу” бабруйчане выйшлі на вуліцы і прымусілі міліцыянтаў пачухаць патыліцу. Будзённае “Слава Богу” ў святочны дзень? Ці не наводзіць тут нехта цень на пляцень? Крочаць па Сацыялістычнай, дык чаму не “Слава КПСС”? Проста мірнае шэсце? З бел-чырвона-белымі стужкамі? Шчыра вераць у Бога? А чаму не ў Прэзідэнта? Нешта тут не так, пахне інцыдэнтам. Вызваць на падмогу АМАП з Магілёва? На сціплае “Слава Богу”? Задачу, якую задалі бабруйчане, міліцыя вырашыць не ў стане...

●

— Грэх скардзіцца, — казаў Хама, — усё ўжо ёсць, жывём, як за граніцай. Калі чагосьці дзе і няма, дык гэта месцаў у гасцініцах і вязніцах.

●

Лён з лаўсанам, лён з лаўсанам, уніформа ветэранаў. Кепачкі, тэніскі, нямодныя, уцэненыя, нязграбныя, танныя — і ўсё-такі жаданыя. Ёсць, аднак, адна загана: кампазіт з ільна-лаўсана нейкім чынам уплывае на мысленне ветэранаў, і ўжо само мысленне вымагае стыль адзення.

●

Іменаслоў. Маскоўскі радзільны дом імя Крупскай... Невядома, чаму ў гонар Надзеі Канстанцінаўны названы дом для парадзіх, ды яшчэ імем жанчыны, якой Бог дзяцей не даў? Можа, ведалі штосьць на Мінскай птушкафабрыцы імя Крупскай? Тут хоць і не так бестактоўна паставіліся да выбару назову, але ж і курэй Надзея Канстанцінаўна не разводзіла. Ёсць нешта ў сталіцы імя Клары Цэткін, імя Розы Люксембург. Галоўнае, назовы трымаюцца. Ды што казаць, калі імя Суворава дасюль носяць больш дзесяці калгасаў на Беларусі!

●

“Вечны” агонь у мемарыялах запальваюць цяпер па “датах”. І ўсё-такі ён вечны, як вечныя мацеркі і салдаты.

●

Накупіў непатрэбнага воз — не ўзяць, не ўзняць, не аблапіць. Кажаце, рэклама — не гіпноз? А што мяне абула ў лапці?

●

Зачыняюцца банкі там і тут — багацеяў б’е ліхаманка. Знаем цяпер, што такое банкрут — банкір з жабрачай бляшанкай.

●

“Савок” папрасіў Бога ўстанавіць Тыдзень барацьбы з мафіяй, ад якой церпіць ягоны, “саўковы”, бізнес.

— Ідэя цікавая, сказаў Бог, — але што вы будзеце рабіць усе іншыя тыдні года, усе тыя гады, што засталіся да новага веку, і ўвесь новы век, калі спадзеяцеся, што ў ім нарэшце з мафіяй будзе пакончана?

— Столькі я не пражыву, Божа.

— Яно так, — адказаў Усявышні, — але астатнія як?

●

— Не пішы, — кажуць, аб надзённым, пішы аб вечным — надзённае ненадзейнае, а вечнае бясспрэчнае. Схіляюся да вечнага дрыготкаю свечкаю, але жыву надзённым — вечна зялёным!




ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 2332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 2332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985**
**літаратурнага жыцця — 2332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985**
**паэзіі і прозы — 2332-204**
**музыкі — 2332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 2332-462**
**навін — 2332-462**
**мастацкага афармлення — 2332-204**
**фотакарэспандэнт — 2332-462**
**бухгалтэрыя — 2682-660**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4785
Нумар падпісаны 3.10.1996 г.
Заказ 6436/Г

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12